



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

9 красавіка 2021 года №15 (1354)

18+




# Як немцы ў 1894 годзе трапілі на Вілейшчыну і мадэрнізавалі тут мясцовыя маёнткі



## Нашчадак знакамітага роду Лампрэхтаў Марэк Лампрэхт расказвае гісторыю сваёй сям'і

старонка 17

Вязынь. Пачатак 20 стагоддзя. Генрых Лампрэхт з сям'ёй: жонкай Стэфаніяй і дзецьмі Зофіей, Янінай і Генрыхам-малодшым.

Фота забяспечанае Марэкам ЛАМПРЭХТАМ.

ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# Маладзечанцы адстойваюць пасаду дырэктара школы №5 за Макарэвічам

**Пра звальненне дырэктара школы стала вядома ў апошнія дні сакавіка. Але калегі і бацькі школьнікаў не пагаджаюцца з такім кадравым рашэннем.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

**У маладзечанскай школе №5 падчас датэрміновага галасавання мінулым жніўнем.**

На 7 красавіка новага дырэктара калектыву пятай школе не прадставілі.

Сітуацыя са звальненнем пачалася яшчэ ў жніўні. У школе №5 быў арганізаваны выбарчы ўчастак. На гэтым участку на 120 галасоў кандыдат Ціханоўская апярэдзіла кандыдата Лукашэнку. Якія падзеі адбываліся пасля гэтага, школа не каментуе, але праз некалькі дзён пасля выбараў дырэктар Макарэвіч падаў заяву на звальненне.

Сярод маладзечанцаў узнікла абурэнне: многія палічылі, што адстаяць пасаду за Макарэвічам – справа гонару. Былі і такія выпадкі, што бацькі пераводзілі дзяцей з іншых школ у пятаю ў знак павагі і даверу да калектыву і дырэктара. Тады з'явілася інфармацыя, што звальняць Яўгена Васільевіча не будуць, а яго заява на звальненне ўвогуле згубілася.

Аднак у канцы сакавіка педагогу паведамілі, каб ён забіраў дакументы, а ад 1 красавіка ў школе – новы дырэктар. Звальняюць яго па той жнівеньскай заяве «па ўласным жаданні». Кантракт у педагога заканчваецца ў жніўні 2022 года.

Новага дырэктара калектыву пятай школы 1 красавіка не прадстаўлялі. Аднак на размову з завучамі прыехала начальнік упраўлення па адукацыі **Іна Драпеза** з намеснікам **Анжалікай Хандзецкай**.

Як нам паведамляюць педагогі, у калектыве вельмі засмучаны звальненнем дырэктара. Пад заявай працягнуць яго працу на пасадзе падпісаўся 31 супрацоўнік з 67.

### «Не заслугоўвае такой непавагі»

Мы папрасілі падзяліцца ўражаннямі з прычыны звальнення Яўгена Макарэвіча ганаровую грамадзянку Маладзечаншчыны, былую настаўніцу школы №5 **Лідзію Князеву**. Яна заснавала і больш за 30 год кіравала клубам «Пошук», а нядаўна выйшла на адпачынак.

– З-за гэтай сітуацыі я вельмі перажываю, хаця ўжо і на пенсіі, – расказвае Князева. – З Макарэвічам я адпрацавала большую частку жыцця. Ён выдатны педагог, дасведчаны ўмелы кіраўнік, Чалавек з вялікай літары. Менавіта дзякуючы яго клопату і падтрымцы столькі год праіснаваў клуб «Пошук», які адшукаў імёны вязняў Шталага-342 і іх сваякоў. Яўген Васільевіч падтрымліваў усе нашы праекты, вынікам якіх стала столькі добрых і карысных спраў. Ён не заслугоўвае такой непавагі да сябе.

Цяпер клуб «Пошук» узначальвае настаўніца пачатковых класаў **Ганна Карумная**. Вось як яна пракаментавала сітуацыю:

– Дагэтуль у шоку, не чакала, што так будзе. Сітуацыя вельмі хвалюючая і трывожная. І як педагог, і як кіраўнік ён мудры і па-бацькоўску клапатлівы. Заўсёды дае карысныя парады.

Псіхолаг **Іна Шыянок** расказвае:

– Да звальнення стаўлюся з непаразуменнем. Працу дырэктара ацэньваюць па двух параметрах – як спецыяліста і як асобы. У Яўгена Васільевіча ўдала спалучаюцца абодва – ён выдатна паказаў сябе і як прафесіянал, і як асоба. У школе няма значных канфліктаў. У нас невялікая школа, і праца дырэктара ў тым ліку – навідавоку. Што ў калектыве ўсё ў парадку, сведчыць і тое, што ў першы клас да нас вядуць сваіх дзяцей былыя выпускнікі. Макарэвіч кіруе школай больш за 20 год. І тая падтрымка, якую ён цяпер атрымлівае, кажа, што менавіта ён сфарміраваў у школе здаровы калектыў.

### «Урок для ўсяго горада»

Многія бацькі абураныя звальненнем Яўгенія Васільевіча. Яны збіралі подпісы пад зваротам на імя начальніка ўпраўлення па адукацыі Іны Драпезы, у якім просяць захаваць пасаду дырэктара школы №5 за Макарэвічам.

Мы паспрабавалі высветліць у бацькоў школьнікаў, чаму для іх так важна захаваць пасаду за Макарэвічам.

У маладзечанкі **Яўгеніі Прыгодзіч** двое дзяцей – Павел і Вера. Павел, ён старэйшы, спачатку хадзіў у іншую школу, але там зусім не спадабалася, таму перайшлі ў пятую. І тады, як кажа суразмоўца, яшчэ не ведалі, «наколькі круты Макарэвіч».

– Ён усіх дзяцей школы ведае па імю, заўсёды сустракаў раніцай на ўваходзе, – расказвае жанчына. – У школе свая асаблівая атмасфера.

Маці расказвае, што ў школе, дзе спярша вучыўся сын, першыя чатыры гады амаль усё падабалася. Першая настаўніца апякала дзяцей, як родных, і ў класе былі і добрыя веды, і паводзіны. Калі прапаноўвалі ўступаць у піянеры, большасць класа ўступіла. Павел адмовіўся, і ніхто не настойваў.

Пасля ж сталі заўважныя новыя і новыя недахопы. У школе не хапае распрананальняў, з-за гэтага паміж дзецьмі пастаянныя канфлікты.

– Многія мерапрыемствы праводзяць для галачкі і паказухі. Напрыклад, аднойчы павесілі аб'яву аб правядзенні адкрытага ўрока для бацькоў, – расказвае Яўгенія. – Мне цікава было б паглядзець, як вучыцца мой сын. Тэлефаную настаўніцы, кажу, што прыйду. Яна адказвае: ну вы ж разумееце, што нам трэба самастойнай, а калі вы прыйдзеце, давядзецца працаваць на публіку, таму лепш не трэба. Але на паперы адкрыты ўрок правялі.

Аднойчы ў школе ладзілі кірмаш з продажам дамашняй выпечкі. Павел захацеў паўдзельнічаць.

– Хтосьці з завучаў сказаў, што раз ён не піянер, то нельга. Давялося тэлефанаваць дырэктару і высвятляць, што гэта за дыскрымінацыя. Чым не піянер горшы за піянера?

Апошняй кропляй для маці Паўла стаў канфлікт паміж вучнямі. Калі ў пачатковай школе настаўніца вырашала канфлікты, разбірала іх, то пасля іх высвятлялі паявярхоўна. У выніку ўсё паўтаралася.

– Там такі падыход – трэба ўсё замяць, каб было ціха, – мяркуе Яўгенія. – У пятай жа школе зусім іншая атмасфера – душэўная, дамашняя. Ад дырэктара да вахцёра – усе ведаюць імёны кожнага вучня. Сыну і дачцэ там вельмі падабалася. Настаўнікі ўсё рабілі, каб дзеці ўліліся ў калектыў. Пасля выбараў канчаткова зразумела, што інтуіцыя мяне не падманула, і я зрабіла правільны выбар.

Асобна адзначае Яўгенія ўменне Макарэвіча зацікавіць гісторыяй. Дзякуючы яго падыходу сын пачаў вывучаць гістарычных асоб, выконваць творчыя заданні.

– Бывае, дырэктар камусьці падабаецца, камусьці – не, – разважае жанчына. – У пятай школе дырэктара паважаюць і любяць усе без выключэння. Мой знаёмы неяк напісаў вельмі дакладна: Макарэвіч – Настаўнік з вялікай літары. Ён усяму гораду падаў урок сумленнасці, справядлівасці і мужнасці.

### «Абсалютна на сваім месцы»

Галоўны рэдактар спартыўнага выдання «Трыбуна» **Алег Гаруновіч** вучыўся ў маладзечанскай школе №12, калі там выкладаў гісторыю Яўген Макарэвіч. Вось як ён прыгадвае тыя часы:

– Нават мне малому было зразумела, што гэта вельмі класны дзядзька. Умеў стварыць на ўроках нязмушаную атмасферу. Запомніліся два моманты. Першае – гэта фірменны зварот: «Ну што, бандыты?». А другое – гэта як Макарэвіч доўга глядзеў з прыжмурам пасля адказу, а затым гаварыў: «Ладна, улічваючы тваё пралетарскае паходжанне...» – і называў адзнаку. Калі паступіў на журфак, прыехаў у родны горад на практыку ў «Рэгіянальную газету». Адным з першых заданняў было інтэрв'ю з Яўгенам Васільевічам, які незадоўга да таго і стаў дырэктарам у СШ №5. Пачуўшы пра паслявыбарную сітуацыю, спрабаваў да Макарэвіча дазваніцца – ён, на жаль, не ўзяў тэлефон. Бацькі і настаўнікі і цяпер працягваюць за яго змагацца. Спадзяюся, што перамога будзе за народам.

У маладзечанкі **Аксаны Нікіцінай** двое дзяцей ходзяць у пятую школу.

– Яўген Васільевіч цалкам задавальняе як педагог і дырэктар школы, – расказвае яна. – Яго шчыра паважаюць і вучні, і настаўнікі. Чалавек з мудрай і зразумелай пазіцыяй – гэта дарагога варта. Такімі выдатнымі кадрамі раскідвацца нельга, добрыя педагогі павінны цаніцца. Пры нашым дырэктары ў школе парадак. Макарэвіч – чалавек, які абсалютна на сваім месцы, і на гэтым месцы яго трэба пакінуць.

– Вельмі сумна, калі Яўген Васільевіч сыдзе са школы, – дзеліцца маці вучняў пятай школы **Людміла Барко**. – Гэта дырэктар, які ведаў усіх дзяцей і амаль усіх бацькоў. Яшчэ падчас вучобы майго мужа быў дырэктарам. Вельмі добры, чулы, ніколі не адмаўляў у просьбах. Дзеці яго заўсёды хваляць.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# У Смаргоні – вытворчасць, у Ашмянах – медыцына

## У якіх галінах патрэбныя спецыялісты ў рэгіёне

АСТРАВЕЦ
АШМЯНЫ
СМАРГОНЬ

**Сёння прапануем разгледзець вакансіі і заробкі, якія прапануюць шукальнікам арганізацыі і ўстановы Астраўца, Ашмянаў і Смаргоні.**




**Гледзячы на смаргонскія вакансіі, можна сказаць, што гэта ці не адзіны горад у рэгіёне, дзе працуе вытворчасць.**

Вось якія прапановы з'явіліся за апошні тыдзень на сайце Дзяржаўнай службы занятасці.

### Астравец: Найвышэйшы заробак у дырэктара бібліятэкі

Астравецкая раённая бібліятэка шукае дырэктара. Абяцаюць заробак ад 744 рублёў. Сюды ж на паўстаўкі возьмуць інспектара па кадрах. Прапануюць ад 200 рублёў.

У мясцовую сельгастэхніку возьмуць двух трактарыстаў-машыністаў. Абяцаныя заробкі розныя: аднаму – ад 600, другому – ад 500. У гэту ж арганізацыю гатовыя ўзяць слесара-рамонтніка, вядучага інжынера, электраманцёра, зваршчыка, кіроўцу. Інжынеру прапануюць ад 547, кіроўцу – ад 550. Іншым – ад 500.

Ва ўпраўленне па працы, занятасці і сацабароне патрэбныя сядзелка і сацработнік. Сядзелцы – ад 500, сацработніку – ад 600.

Шукальнік, які прыйдзе дворнікам, прыбіральшчыкам ці рабочым па комплексным абслугоўванні ў астравецкую гімназію, атрымае ад 400. Такі ж заробак тут прапануюць акампаніятару ў мясцовай школе мастацтваў. Дарэчы, пакуль школа мастацтваў не толькі без акампаніятара, але і без намесніка дырэктара. Яго возьмуць на паўстаўкі і будуць плаціць ад 300 рублёў. А філіял гэтай школы ў Варнянах шукае загадчыка. Заробак – ад 500.

Завяршаюць спіс вакансій ад ЖКГ – рабочы і начальнік хіміка-бактэрыялагічнай лабараторыі. Заробкі ад 600 і ад 643 адпаведна.

### Ашмяны: Патрэбныя дактары. І нават галоўны

Тут шукаюць інжынера-тэхнолага ў ЗАТ «Радыётэхніка». Прапануюць ад 600 рублёў. Галоўнаму бухгалтару і кіроўцу ў «Ашмянах-быце» – ад 400. Дзяржаўнае прадпрыемства «Пагранічны», што ў Каменным Логу, возьме агранома. Прапануюць ад 500.

Некалькі прапаноў ад музея імя Багушэвіча ў Гальшанах. Тут патрэбны ці не цэлы штат – прыбіральшчык на палову стаўкі, дворнік, наглядчык, экскурсавод, касір. Касіру, наглядчыку і дворніку прапануюць ад 400. Прыбіральшчыку за палову стаўкі – 200.

А вось экскурсавод атрымае ад 500.

У садку №7 возьмуць прыбіральшчыка на палову стаўкі і повара. Заробкі – 200 і 400 адпаведна.

Цяпер прапановы ад ЦРБ. На паўстаўкі возьмуць медсястру ў платны стаматалагічны кабінет. Заробак – ад 200. Доктар-хірург па экстранай дапамозе ў паліклініцы – ад 700, а яго калега ў хірургічным аддзяленні – ад 650. Дактароў і медсёстраў у Ашмянах патрэбна шмат. Стаматолаг – ад 550, стаматолаг-хірург – ад 468, дэрматавенеролаг на паўстаўкі – ад 321, неўролаг – ад 600. Ад 600 і фельчару. Ад 212 – рэнтгенлабаранту на паўстаўкі. Патрэбны нават галоўны доктар. Заробак – ад 800. Медсёстрам прапануюць ад 400. Столькі ж кухоннаму рабочаму, санітаркам і тынкоўшчыку, які таксама патрэбны ў бальніцы.

Доктар-лабарант патрэбны і ў мясцовым цэнтры гігіены і эпідэміялогіі. Заробак за паўстаўкі – ад 410. Эканаміст на стаўку атрымае тут ад 470.

На ашмянскі мясакамбінат возьмуць ветэрынарнага доктара. Прапануюць ад 790.

У мясцовы цэнтр сацабслугоўвання возьмуць сацыяльнага работніка. Прапануюць ад 451 рубля. Сядзелцы – ад 472.

Некалькі вакансій ад ЗАТ «Будаўнік» – архітэктар, бетоншчык, машыніст аўтакрана, дахаўшчык і геадэзіст. Апошняму – ад 700. Астатнім – ад 800 кожнаму.

Ёсць прапановы ў галіне культуры. На паўстаўкі рэжысёр, на стаўку – касір, кантралёр і акампаніятар. Усім – ад 400. Рэжысёру на паўстаўкі – ад 210.

### Смаргонь: А тут працуюць заводы

ЖКГ шукае грузчыка. Прапануе ад 586. Патрэбны грузчык і на мясцовы хлебазавод. Праўда, атрымае ён тут ад 400.

Агрэгатны завод гатовы заплаціць ад 550 спецыялісту, які прыйдзе на пасаду інжынера па ахове навакольнага асяроддзя, і ад 650 – апаратару аўтаматычных і паўаўтаматычных ліній станкоў.

Некалькі прапаноў ад «Кранаспана» – інжынер-электрык, тэхнік-лабарант, галоўны інжынер, спецыяліст па арганізацыі закупак, намеснік дырэктара, менеджар, начальнік цэха, інжынер-электрык, інжынер-механік. Заробкі ва ўсіх – ад 800. Ад 700 – толькі ў тэхніка-лабаранта і інжынера-механіка.

На прадпрыемства «Смаргоньсілікатабетон» возьмуць слесара і лабаранта па фізіка-механічных выпрабаваннях. Заробкі – ад 650 і 500 адпаведна. Яшчэ вакансіі ад прадпрыемства – прыбіральшчыкі, кантралёры будматэрыялаў, кранаўшчык, вядучы эканаміст. Кантралёру заплацяць ад 500, астатнім – ад 700. Вытворчасць знаходзіцца ў вёсцы Міхневічы Залескага сельсавета.

Працоўныя месцы ў адукацыі наступныя: повар на паўстаўкі, прыбіральшчык і гардэробшчык у СШ №2. Заробкі – ад 400 і ад 200 – на паўстаўкі. І повар у садок №13 з заробкам ад 400.

Ад мясцовага аграсэрвісу – спецыяліст па кадрах, грузчык, спецыяліст па маркетынгу. Заробкі ўсё тыя ж – ад 400.

На паўстаўкі цэнтр сацабслугоўвання «Цёплы дом» возьме адміністратара сацсетак. Заробак – ад 310. Загадчык аддзялення ў цэнтры атрымае ад 720.

У гаспадарку ў Жодзішках патрэбныя жывёлавод, трактарыст, аператар машыннага даення. Ад 600 – жывёлаводу, астатнім – ад 700.

У раённы цэнтр культуры патрэбны балетмайстар – ад 500 і інжынер-праграміст – ад 550.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 1.04 | 8.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6231 | **2.6676** |
| Еўра | 3.0789 | **3.1684** |
| Злоты, 10 | 6.5974 | **6.9262** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4694 | **3.4348** |
| Грыўня, 100 | 9.4196 | **9.5536** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 1.04 | 8.04 |
| Еўра | 3.0500/3.1200 | **3.1000/3.1800** |
| Долар ЗША | 2.6000/2.6500 | **2.6200/2.6850** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 31.03 | 7.04 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,99 | **23,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,35 | **4,35** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,76 | **7,76** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Селядзец, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Алей, 1 л | 4,00 | **4,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,60 | **2,60** |
| Агуркі, 1 кг | 4,90 | **4,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,00 | **5,90** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Буракі, 1 кг | 1,30 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 1,80 | **3,50** (маладая) |
| Капуста пекінская, 1 кг | 4,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 1,20 | **1,30** |
| Памідоры, 1 кг | 4,90 | **3,90** |
| Памідоры чэры, 1 кг | 7,80 | **7,90** |
| Перац, 1 кг | 7,00 | **7,50** |
| Радыс, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Салата, пучок | 1,90 | **0,75** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Цыбуля-сявок, 1 кг | 6,50 | **6,00** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **6,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,00 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,00 | **3,70** |
| Вінаград, 1 кг | 6,50 | **5,50** |
| Гранат, 1 кг | 6,00 | **6,50** |
| Грушы, 1 кг | 4,50 | **2,90** |
| Ківі, 1 кг | 6,00 | **5,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,00 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,00 | **4,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## Бяспраўнік учыніў ДТЗ. Пацярпела дзяўчынка-пасажырка

**ВАЛОЖЫН**

Аварыя здарылася 30 сакавіка каля 23 гадзін на 11 кіламетры аўтадарогі Кіявец-Манькаўшчына-Бакшты.

19-гадовы бяспраўнік на БМВ пры выездзе з дарогі са жвіровым пакрыццём з боку вёскі Глеі на асфальт няправільна выбраў хуткасць руху, не даў рады кіраванню і з'ехаў у кювет, дзе стукнуўся ў дрэва.

У выніку ДТЗ 14-гадовая пасажырка, жыхарка Валожынскага раёна, атрымала цялесныя пашкоджанні. Дзяўчыну шпіталізавалі.

Паводле папярэдняй інфармацыі, рамянём бяспекі кіроўца і пасажыр прышпілены не былі. Устаноўлена, што кіроўца не меў пасведчання.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Мужчыну будуць судзіць за публічную абразу Лукашэнкі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пракуратура Мінскай вобласці накіравала ў суд Маладзечанскага раёна крымінальную справу ў дачыненні да 42-гадовага мясцовага жыхара К., якому інкрымінуюць публічную абразу Аляксандра Лукашэнкі.

Устанавілі, што нецвярозы К. 9 жніўня 2020 года на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне пры вялікай колькасці людзей падчас несанкцыянаванага масавага мерапрыемства выкрыкваў словы і рабіў жэсты абразлівага характару ў дачыненні да Лукашэнкі.

Пасля вывучэння матэрыялаў справы ў пракуратуры прыйшлі да высновы аб абгрунтаванасці абвінавачвання, аб'ектыўным даследаванні абставін злачынства. Пагадзіліся з кваліфікацыяй зробленага па частцы 1 артыкула 368 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**Паводле Генпракуратуры.**

## Каля Крэва ратавалі трох рыбакоў

**СМАРГОНЬ**

Здарэнне адбылося непадалёк ад Крэва 31 сакавіка.

Прыкладна за 50 метраў ад берага ў ледзяной вадзе на невялікай адлегласці адзін ад аднаго знаходзіліся двое мужчын. Глыбіня возера – больш за два метры. Кінуты ім выратавальны круг і вяроўка дапамаглі пратрымацца да прыбыцця групы выратавання.

Праз некалькі хвілін ратавальнікі дабраліся да рыбакоў. Пагрузіўшы аднаго з іх на выратавальную дошку, дапамаглі другому выбрацца з палонкі і даставілі на сушу.

За 30 метраў ад берага ў ледзяной вадзе знаходзіўся трэці рыбак. Ён стаў сведкам надзвычайнага здарэння, паведаміў пра яго па нумары 101. Спрабуючы дапамагчы таварышам, сам праваліўся пад лёд. Яго таксама выцягнулі пры дапамозе вяроўкі і выратавальнага круга.

Узрост выратаваных – 69, 54 і 49 гадоў. Ні ў каго з іх не было ні выратавальных камізэлькі, ні вяроўкі. Мужчыны прыехалі на рыбалку з суседняга райцэнтра.

Двух «хуткая» адвезла ў бальніцу з пераахаладжэннем.

**Паводле МНС.**

## Перакулілася фура. Пацярпеў кіроўца

**МЯДЗЕЛ**

Ноччу 2 красавіка каля апоўначы на 144 кіламетры аўтадарогі Р-45 Полацк-Глыбокае-мяжа Літвы 46-гадовы жыхар Калінінграда трапіў у аварыю.

Кіруючы аўтамабілем МАН з прычэпам, ён рухаўся з боку мяжы Літоўскай Рэспублікі ў бок Полацка. Кіроўца не ўлічыў дарожныя ўмовы, не справіўся з кіраваннем і з'ехаў у кювет. Машына перакулілася. Кіроўцу шпіталізавалі. Па гэтым факце праводзіцца праверка.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У Крыніцы аўтамабіль збіў пешахода. Мужчына ў бальніцы

**МАЛАДЗЕЧНА**

2 красавіка каля палovы восьмай раніцы здарылася аварыя ў вёсцы Крыніца. Пацярпеў пешаход. Падрабязнасці расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**:

– 56-гадовы маладзечанец на «Пежо-206» ехаў па аўтадарозе Мінск-Маладзечна-Нарач у кірунку Мінска. У вёсцы Крыніца ён наехаў на 47-гадовага жыхара Маладзечанскага раёна, які пераходзіў дарогу па нерэгуляваным пешаходным пераходзе.

Пешахода з траўмамі забралі ў бальніцу. Матэрыялы – на праверцы ў АДАІ.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Доктар-стаматолаг пераблытаў лекі.

# Замест лідакаіну – аміяк

## Стаматолаг зрабіў хлопчыку не той укол. Цяпер заплаціць 5 500

**МАЛАДЗЕЧНА**

**31 сакавіка суд Маладзечанскага раёна разгледзеў грамадзянскую справу па іску Д. у інтарэсах непаўналетняга К. да ўстановы аховы здароўя аб спагнанні грашовай кампенсацыі маральнай шкоды.**

Заяўніца паведамляла, што стаматолаг аказаў неналежную дапамогу яе непаўнагадоваму сыну, у выніку якой хлопчык атрымаў шкоду здароўю, а таксама фізічныя і маральныя пакуты, з улікам ступені якіх прасіла спагнаць з установы аховы здароўя на карысць К. 10 тысяч рублёў кампенсацыі маральнай шкоды.

Паводле заключэння эксперта К. стаматолаг прычыніў лёгкія цялесныя пашкоджанні ў выніку парушэння тэхнікі выканання ін'екцыі, што пацягнула апёк слізістай абалонкі і шчакі непаўналетняга.

Прадстаўнік адказчыка ў судовым пасяджэнні іскавыя патрабаванні прызнаў, аднак з улікам ступені цяжкасці цялесных пашкоджанняў палічыў заяўленую да спагнання суму грашовай кампенсацыі маральнай шкоды завышанай.

> **Стаматолаг у судовым пасяджэнні не пярэчыў супраць задавальнення іскавых патрабаванняў, аднак таксама палічыў заяўленую да спагнання грашовую суму завышанай.**

Растлумачыў, што замест раствору лідакаіну па памылцы ўвёў пацыенту раствор аміяку, пасля чаго неадкладна прыняў неабходныя меры па ліквідацыі наступстваў парушэння тэхнікі выканання ін'екцыі.

Рашэннем суда Маладзечанскага раёна пастаноўлена спагнаць з установы аховы здароўя на карысць непаўнагадовага К. грашовую кампенсацыю маральнай шкоды ў памеры 5 тысяч рублёў, судовыя выдаткі ў суме 550 рублёў, а ўсяго 5 550 рублёў.

Рашэнне суда ў законную сілу не ўступіла, можа быць абскарджана і апратэставана ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**Паводле Вярхоўнага суда.**

## Мінчанка насмерць збіла казулю

**ВІЛЕЙКА**

Здарэнне адбылося 4 красавіка каля васьмі вечара. Падрабязнасці расказаў старшы дзяржаўтаінспектар Вілейскай ДАІ **Генадзь Сяськоў**:

– 35-гадовая жыхарка сталіцы на аўтамабілі «Таёта-Лэнд Крузер 200» ехала па аўтадарозе Р-58 з боку Мядзела ў бок Мінска. На 55-м кіламетры кіроўца наехала на казулю, якая выскачыла на дарогу проста перад аўтамабілем.

У выніку ДТЗ казуля загінула, у аўтамабіля – механічныя пашкоджанні. Больш ніхто не пацярпеў.

Тушу загінулай казулі перадалі ў Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

– У дзеяннях кіроўцы парушэнняў няма, – адзначае Генадзь Сяськоў. – Таму адміністрацыйную справу спынілі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## 16-гадовы матацыкліст пацярпеў у аварыі

**АШМЯНЫ**

У Ашмянах у сутыкненні з легкавіком пацярпеў 16-гадовы матацыкліст.

Аварыя адбылася ўвечары 5 красавіка на вуліцы Савецкай у райцэнтры. Кіроўца «Рэно» пры павароце налева не саступіў дарогу матацыклу «Мінск».

– У выніку сутыкнення пацярпеў 16-гадовы кіроўца матацыкла. Хлопца шпіталізавалі ў хірургічнае аддзяленне мясцовай бальніцы, – распавялі ў ДАІ.

Пасведчанне кіроўцы хлопец атрымаў 30 сакавіка, а матацыкл быў набыты 2 красавіка.

**БелТА.**

## Зніклага ў сакавіку знайшоў загінулым выпадковы прахожы

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанца, які знік 6 сакавіка, знайшлі. Мужчына загінуў.

6 красавіка яго знайшоў выпадковы прахожы каля садовых таварыстваў, што побач з вёскай Баяры, паведамілі валанцёры атрада «Анёл Паўночны Захад».

Нагадаем, што пра знікненне мужчыны ў міліцыю 25 сакавіка паведаміла яго маці. Жанчына распавяла, што 6 сакавіка, вярнуўшыся з працы позным вечарам, не застала сына дома. З таго дня на сувязь з маці мужчына не выходзіў, яго мабільны тэлефон недаступны.

28 сакавіка маладзечанца ля вёскі Баяры шукалі родныя, валанцёры Чырвонага Крыжа, пошукава-выратавальных атрадаў «Анёл» і «Анёл Паўночны Захад». Але тады мужчыну не знайшлі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Маладзечанка з сям’ёй пераехала ў Польшчу і расказала, як дзеці вучацца ў школе ў Варшаве

**Польшчу накрыла трэцяя хваля пандэміі каронавіруса. У суседняй з Беларуссю краіне ўвялі лакдаўн: забараняюць масавыя мерапрыемствы, школы пераводзяць на аддаленае навучанне.**

Маладзечанка **Яўгенія Прыгодзіч**, якая пераехала ў Варшаву разам з мужам і двума дзецьмі, расказвае «Рэгіянальнай газеце», як працуюць школы падчас пандэміі і як дзеці адаптуюцца ў польскай адукацыйнай сістэме.

### Пераезд у Польшчу ў пандэмію

Яўгенія пераехала ў Польшчу восенню 2020 года. У той час у краіне дзейнічаў рэжым часовых абмежаванняў праз пандэмію каронавіруса. Па прыездзе ў Польшчу сям’я павінна была адсядзець 10 дзён на самаізаляцыі – іх правяралі праз адмысловую праграму ў мабільным тэлефоне. Напрыклад, у Беларусі на праверку выязджаюць міліцыянеры мясцовага РАУС і супрацоўнікі эпідэміялагічнай службы.

**Па словах маладзечанкі, да каронавіруса ў Польшчы адносяцца вельмі ўважліва. Пры любым нязначным росце ўзроўню захворвання ў рэгіёне ўводзяць пэўныя абмежаванні.**

– Нам можна было схадзіць толькі ў бліжэйшую краму. Гэта была сапраўдная вандроўка пасля дзесяці дзён самаізаляцыі.

Яўгенія падзялілася, што пасля пераезду адразу пачала клапаціцца аб пошуку школы для сына Паўла і дачкі Веры.

### Як адаптуюцца іншаземцы ў польскай школе

Праблем з уладкаваннем дзіцяці ў польскую школу няма. Напачатку настаўнікі дапамагаюць дзецям з польскай мовай. Дзеці Яўгеніі пайшлі ў польскую школу ў лістападзе, амаль адразу пасля пераезду.

– Ты вядзеш сваё дзіця ў школу, якая побач з тваім жыллём. Яны не могуць табе адмовіць у адукацыі. Ёсць і нюансы: у спецыялізаваную школу – спартыўную, да прыкладу, ты можаш не трапіць. Там ужо трэба праходзіць выпрабаванні.

Польскія ўлады маюць права прыцягнуць бацькоў да адказнасці, калі дзеці не ходзяць у школу.

– Па заканчэнні пэўнага прамежку часу ўлады могуць зацікавіцца, чаму твае дзеці не ходзяць ва ўстанову адукацыі. І вас, як бацькоў, могуць прыцягнуць да адказнасці, бо ты пазбаўляеш дзіцяці базавага права – права на адукацыю.

Яўгенія расказала, што лягчэй за ўсё прыходзіцца дачцэ Веры. Вера вучыцца ў «зерузўцы» – падрыхтоўчы клас малодшай школы. Па словах жанчыны, дачка ўжо можа размаўляць на польскай з аднагодкамі.

**– У мяне няма праблем з аднакласнікамі. Я іх разумею. Часам магу сказаць няправільна, пераблытаць словы. Яны смяюцца, але хутка мяне выпраўляюць, – кажа Вера.**

Паўлу прыходзіцца складаней: у яго ўжо з’явіліся сур’ёзныя школьныя прадметы, вывучэнне якіх без добрых ведаў польскай крыху адбіваецца на адзнаках. Павел расказаў, што праблемы ёсць з англійскай мовай:

– Ведаеце, там польска-англійская. Значыць, трэба перакладаць усё двойчы: з англійскай на польскую, а пасля яшчэ і на рускую, каб зразумець. Гэта складана. А яшчэ можна ўзяць і другую замежную мову. Вось я выбіраю, якую хачу.

У польскіх школах вучацца па шасцібальнай сістэме. Па словах Яўгеніі, дзеці атрымліваюць шасцёркі пераважна за творчыя заданні. Яе сын Павел рабіў праект па гісторыі, за што атрымаў выдатную адзнаку.

Дарэчы, прадмет «Тэхніка» для дзяўчат і хлопцаў не раздзяляецца на выключна жаночыя ці мужчынскія заняткі. Хлопцы могуць шыць, вязаць і гатаваць, а дзяўчаты рабіць вырабы з дрэва.

– Гэта добра, – дзеліцца Яўгенія. – Хлопцам жа трэба ўмець прышыць гузік ці зацыраваць шкарпэткі.

**У польскіх школах ёсць прадмет «Рэлігія». Па словах маладзечанкі, на яго ходзяць амаль усе дзеці ў малодшых класах. Ад яго можна адмовіцца і не наведваць.**

Яўгенія адзначае, што ведае адзнакі толькі сваіх дзяцей у адрозненне ад беларускіх школ. Яна ўспамінае, што ў школах у Маладзечне любы бацька мог даведацца адзнакі любога аднакласніка свайго дзіцяці, іх нічто не хаваў. Па меркаванні жанчыны, гэта ператваралася ў гонку за лепшымі адзнакамі, а не ведамі.

– Я не ведаю, якія заданні задаюць дзецям. Дзённікаў не існуе, кожны тыдзень падпісваць іх не трэба.

**Падручнікі выдаюцца бясплатна. Напрыканцы навучальнага года вучням трэба іх проста аддаць назад, плата за іх выкарыстанне не прадугледжаная.**

У канцы года ў дзяцей праходзіць атэстацыя, можна застацца і на другі год, калі праграма за вучэбны год не засвоеная.

Канікулы ў дзяцей толькі летам. Навучэнцы вучацца па семестрах, як у беларускіх каледжах і ўніверсітэтах. Перад рэлігійнымі каталіцкімі святамі навучэнцы могуць адпачываць некалькі дзён. Напрыклад, вольныя дні былі пасля Вялікадня.

### Магчымасці для адукацыі ў дарослых

Яўгенія цяпер вучыцца на фларыста ў прафесійнай школе. У такой школе адукацыю можа атрымаць як грамадзянін Польшчы, так і іншаземец. У прафесійнай школе ад навучэнца патрабуюцца пашпарт і дыпломы аб адукацыі на радзіме, калі такія ёсць. Адукацыя бясплатная, а пры заканчэнні чалавек атрымлівае пацверджаны дыплом.

Знаёмыя беларусы Яўгеніі абралі іншы шлях. Яны пацвярджаюць свае беларускія дыпломы, а на гэты сыходзіць больш часу. Сяброўка Яўгеніі вучыцца на доктара.

– Перад пераездам мы з ёй размаўлялі. Тады думалі, што будзем бачыцца часцей. А выходзіць, што яна ўвесь час за вучобай. Гэта зразумела, бо праз некалькі год яна будзе зарабляць шмат грошай і добра жыць у Польшчы. Сюды едуць, таму што тут ты можаш дамагчыся лепшага жыцця для сябе і дзяцей.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**



Кніга, якую чытае дачка Яўгеніі ў вольны час, каб папаўняць слоўнікавы запас.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, трактар, пагрузчык. Т. (8-029)5524004.*

• Аўтамабіль. Можна з дэфектамі. Т. (8-029) 8794563.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (Срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Матацыкл К-750 запчасткі. Т. (8-033) 6791420.

• Матацыкл у любым стане. Т. (8-029) 7587953.*

• Стары матацыкл, каляску да матацыкла, запчасткі. Т. (8-029) 6590477.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дом у аграгарадку Ілья. Агульная плошча – 90 кв.м. Чатыры пакоі, кухня, сан. вузел раздзельны. Вялікі ўчастак, сад, хлеў з блокаў, развітая інфаструктура. Кошт – 78 000 рублёў. Т. (8-033) 3103610.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС.*

• Дом у в. Ліпаўка, 7 км чыгунка Солы. Шмат зямлі. Ёсць возера. Т. (8-029) 8033168.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### КУПЛЮ

• Дом (лес, рэчка). Т. (8-029) 6511477.*

### ЗДАМ

• Гандлёвае памяшканне пл. 76 кв.м у Маладзечне па вул. Прытыцкага. Т. (8-029) 6046867, (8-029) 7648443.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Несцяровіч Я.А. УНП 691899504. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Копка, чыстка, рамонт калодзежаў, каналізацыі, ацяплення пад ключ. ІП Гарэлікаў Д.А. УНП 591821956. Т. (8-029) 5201260.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*



• Чыстка, рамонт калодзежаў. Домікі на калодзеж. Каналізацыя пад ключ. Растэрміноўка плацяжу. Пуховіч А.В. УНП 591815033 Т. (8-029) 9188866.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Мэбля б/у. Халадзільнік, канапа, шафа, ложкі, кухня. Маладзечна. Т. (8-029) 8627521, (8-0176) 534791.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Парасяты кармалаў. Т.(8-044) 5321975, (8-029) 7621019.

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Крытае гандлёвае месца на рынку ў Маладзечне, 12 кв.м. Т. (8-033) 6028112 МТС.*

• Павільён у Маладзечне, 24 кв.м. Т. (8-029) 7642123.*

• Сена. Т.А1 (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу. Т. (8-029) 7642123 МТС.*

• Бульбу. Т. (8-029) 8603066, Наташа.*





• Цёскі любыя. Т. (8-029) 8794563.*

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель кат. С, развоз тавараў па магазінах. Т. (8-044) 7657682.*

• Прадпрыемству ў Маладзечне патрабуецца кіроўца-міжнароднік, катэгорыя С, Е, праца Беларусь-Літва. ПП «Маладзечнатрансаўта» УНП 690609101 Т. (8-029) 7630506, (8-029) 3730506 Вайбер.

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Кладка печаў, камінаў. Дэмантаж. Фундамент. Т. (8-029) 3279874.

• Шукаю работу па замене ў старых драўляных дамах ніжніх вянцоў. Рамонт фундаментаў, дахаў. Т.(8-029) 8745410.*

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*



Прафілактычная размова.

# Чаму вясной шмат пажараў

## МНС – пра спальванне смецця і сухой травы

МАЛАДЗЕЧНА

**З надыходам вясны пачынаецца пажаранебяспечны перыяд. Гаспадары наводзяць парадак у дварах, спальваюць смецце, а часам і леташнюю траву.**

Менавіта таму днямі ў вёсках Маркаўскага сельсавета работнікі Маладзечанскага ГРАНС правялі рэйд, падчас якога высветлілі, хто паліць сухую расліннасць і парушае правілы пажарнай бяспекі пры спальванні смецця. Чорныя плямы на ўчастках у вёсцы Талуі прыцягнулі ўвагу начальніка аддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніса Ушацкага**.

– Ад сухой раслінасці пазбаўляецеся агнём? – задаў пытанне начальнік аддзела жанчыне. – Вам вядома, што ў Беларусі выпальванне сухой раслінасці забаронена законам? Згодна з артыкулам 16.40 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, за незаконнае выпальванне сухіх раслін, траў на корані, а таксама ржышча і пажніўных рэшткаў на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі пажару вінаватых прыцягваюць да адміністрацыйнай адказнасці. Штраф – ад 290 да 870 рублёў. А згодна з артыкулам 16.41, за разводзенне вогнішчаў у забароненых месцах прадугледжаны штраф да 348 рублёў. Калі з-за пажару здарыцца шкода ў асабліва буйным памеры, надыходзіць крымінальная адказнасць.

Гаспадыня двара адказвала, што яна толькі паліла смецце.

Аналагічна пазбаўляліся ад смецця і гаспадары суседняга дома. Калі ў першым выпадку гаспадыня знаходзілася на тэрыторыі двара і кантралявала працэс, то ў другім прыйшлося пашукаць домаўладальніка.

Знайшоўшы гаспадароў, Дзяніс Ушацкі патлумачыў ім наступствы ад падобных дзеянняў.

МНС нагадвае правілы навядзення парадку на тэрыторыі прыватных жылых дамоў, лецішчаў:

– разводзенне вогнішчаў дапускаецца на вычышчанай і абкапанай пляцоўцы ў зацішнае надвор'е. Паліць смецце неабходна такім чынам, каб полымя і іскры не траплялі на гаручыя элементы дамоў, гаспадарчых пабудоў, месцы, дзе захоўваюцца гаручыя рэчывы і матэрыялы;

– з сабой неабходна мець ёмістасць з вадой, пяском або вогнетушыцель, каб хутка патушыць полымя;

– не пакідайце вогнішча без нагляду;

– калі сыходзіце, затушыце вуголле да поўнага спынення тлення;

– выпальванне сухой раслінасці, пажніўных рэшткаў, траў на корані катэгарычна забараняецца.

**Марына ГАНЧАРОВА, ГРАНС Маладзечна.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



Яўген Новікаў ля будынка смаргонскай міліцыі пасля трох сутак арышту ў лютым 2021 года.

# У Астраўцы судзяць за вокліч «Жыве Беларусь!» у смаргонскім судзе

**Астравецкі суд разглядае адміністрацыйную справу па артыкуле 24.23 «Парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавых мерапрыемстваў». «Рэгіянальная газета» пагутарыла з Яўгенам Новікавым, якога абвінавачваюць у пікетаванні ў будынку суда.**

### «Заходзім – сядзяць малойчыкі»

31 сакавіка ў судзе Астравецкага раёна прайшло першае пасяджэнне па адміністрацыйнай справе. Яўген Новікаў расказаў, што па справе праходзяць шасцёра чалавек, у тым ліку і ён сам.

**Падтрымаць смаргонцаў у судзе прыехала каля 10 чалавек. Іх усіх не пусцілі на пасяджэнне праз пандэмію каронавіруса.**

– Каля суда хадзілі патрулі. Чацвёра стаялі на пункце аховы – поўны агляд металадэтэктарам. Ля залы стаялі людзі ў грамадзянскім. Мы ўнутр заходзім – сядзяць малойчыкі. Усе на адзін выгляд.

Сведка Пятрова, якая пачула вокліч, адсутнічала на пасяджэнні. Яна даслала ў суд афіцыйную заяву, што сышла ў адпачынак і знаходзіцца за межамі Гродзенскай вобласці. Пятрова прасіла разглядаць справу ў яе адсутнасць, спасылацца на яе папярэднія паказанні.

– Яна напісала афіцыйную заяву, што яе не будзе падчас пасяджэнняў. У гэтай заяве Пятрова напісала наступнае: «Ад старшыні суда Смаргонскага раёна старшыні суда Астравецкага раёна». Значыць, у афіцыйным дакуменце яна звяртаецца не як сведка, удзельнік працэсу, а як суд да суда. Гэта дзіўна.

Новікаў лічыць, што ў паказаннях Пятровай ёсць разыходжанні, а іншыя сведкі абапіраюцца толькі на іх – супрацоўнікі міліцыі, што затрымлівалі і складалі рапарты, ахоўнік, які выклікаў нарад.

**Па словах Новікава, адзіным доказам, што вокліч сапраўды быў – гэта аўдыёзапіс з пасяджэння Пятровай. Аднак у ім не чуваць, хто дакладна крыкнуў «Жыве Беларусь».**

### Заведзеная справа па асабліва злосным хуліганстве

– У адміністрацыйнай справе два тамы. Нават не вельмі важна, што мы атрымаем, калі нас прызнаюць вінаватымі: сядзем на суткі ці будзем плаціць штрафы. На нас жа ўзбудзілі крымінальную справу – асабліва злоснае хуліганства ў складзе групы асоб. Па ёй няма падазраваных.

**Новікаў упэўнены, што ў выпадку, калі людзей прызнаюць вінаватымі ў адміністрацыйным правапарушэнні, то ў крымінальнай справе аўтаматычна і з'явяцца падазраваныя.**

– Гэта і ёсць мэта адміністрацыйнай справы, разумееце? 18 красавіка выходзяць тэрміны, але ніхто не будзе чакаць і справу не закрыюць.

### «Жыве Беларусь» у судзе і масавыя затрыманні

18 лютага ў Смаргоні агучылі прысуд **Інэсе Маркавай** і **Руслану Валюку** па крымінальнай справе за паклёп у дачыненні да міліцыянераў. Пасля абвяшчэння ў калідоры суда нехта з тых, хто падтрымліваў Маркаву і Валюка, крыкнуў «Жыве Беларусь!». Вокліч пачула старшыня смаргонскага суда **Людміла Пятрова**, якая знаходзілася ў суседняй зале. Па яе просьбе выклікалі нарад міліцыі, які пасля затрымаў некалькі смаргонцаў.

Пасля інцыдэнту ў судзе ў Смаргоні пачалі масава затрымліваць людзей, якія прысутнічалі на працэсе Маркавай і Валюка. Суткі адседзелі **Людміла Сульжыцкая**, **Яўген Новікаў**, **Сяргей Трай**, **Ілля Петуноў**, **Рамуальд Улан**, **Яўген Мацкевіч**.

**Пасля трох сутак у ізалятары іх адпусцілі на волю, а смаргонскі суд накіраваў справы на дапрацоўку.**

За гэты час з Беларусі дэпартавалі Іллю Петунова – ён грамадзянін Расіі. Рамуальд Улан знаходзіцца на «хіміі» ў Гомелі – адбывае пакаранне па крымінальнай справе за распаўсюджванне лжывых звестак у дачыненні да смаргонскіх міліцыянераў.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## Беларусь 1

**6.15, 21.40** Х/ф **«ДЕВУШКА С ГЛАЗАМИ ЦВЕТА НЕБА».**

**8.00** Існасць [СТ].

**8.30** Смысл жизни.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».

**9.55** Здоровье [СТ].

**10.45** Дача.

**11.20** «Повод есть».

**12.10** Один день.

**12.40** Х/ф **«ЗАКОН СОХРАНЕНИЯ ЛЮБВИ».**

**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.10** Краіна.

**15.40** Д/ф «РЖЕВ. 500 ДНЕЙ В ОГНЕ».

**16.30, 19.10** Х/ф **«ЖЕНЫ НА ТРОПЕ ВОЙНЫ».**

**21.00** Панорама.

**1.20** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** Анимация для всей семьи «Дом-монстр».

**11.25** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**12.15** «Камень, ножницы, бумага».

**12.45** «На неделю».

**13.30** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**14.30** Х/ф **«МАЛЫШ».**

**16.20** «Богиня шопинга. Экстремальный сезон». Реалити-шоу.

**17.10** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**19.10** Х/ф **«ДЕЖАВЮ».**

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**21.25** Галактическая сага «Звездные войны: Эпизод III – Месть ситхов».

**23.50** Х/ф **«ИСКУССТВО УКРАСТЬ».**

## Беларусь 3

**7.30** «Сіла веры».

**8.00, 14.20** Навіны культуры.

**8.20** «В лесной чаще». Мультфільм.

**8.35** «Бландзінка за вуглом». Мастацкі фільм.

**10.00** «Народны майстар». Іван Раманчук (ганчар, традыцыйны посуд).

**10.25** «Беларуская кухня». Поліўка з грыбамі і рулі.

**10.55** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**11.20** «Дзяржаўная граніца». Фільм трэці «Усходні рубеж» [СТ].

**13.55** «Навукаманія».

**14.40** «Бацькі». Мастацкі фільм.

**16.10** «Архітэктура Беларусі» [СТ].

**16.25** «Люблю і памятаю». Аўтарская праграма Уладзіміра Арлова. Кінарэжысёр Валерый Рубінчык.

**17.10** «Гадзіннік спыніўся апоўначы». Мастацкі фільм [СТ].

**18.50** «Зямля Саннікава». Мастацкі фільм [СТ].

**20.25** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – намеснік дырэктара дзяржаўнай установы культуры «Акцябарскі цэнтр вольнага часу» Святлана Беразоўская.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Вуліца поўная нечаканасцяў». Мастацкі фільм [СТ].

**22.20** Л.Мінкус. «Баядэрка». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.

**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».

**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».

**10.00** ОНТ представляет: «Тревожная кнопка».

**10.25** Премьера ОНТ: «Утро вечера мудренее».

**11.00** К 90-летию Леонида Дербенёва. «Этот мир придуман не нами…».

**12.00** «Видели видео?».

**14.15, 0.15** Х/ф **«ГРЕХИ НАШИ».**

**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**17.55** Премьера. «Сегодня вечером».

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.05** Премьера. «Сегодня вечером» Продолжение.

**22.05** «Клуб Весёлых и Находчивых». Высшая лига.

## СТВ

**6.05, 0.25** «Пища богов».

**7.45** «Анфас».

**8.05** Документальный проект.

**9.00** «Самая полезная программа».

**10.00** «Минск и минчане».

**10.30** «Центральный регион».

**11.00** «Неизвестная история».

**12.10, 13.40, 16.40** Т/с **«ИКОРНЫЙ БАРОН».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**20.20** «СТВ-спорт».

**20.30** Документальный спецпроект.

**22.10** «Территория заблуждений».

## Мир

**5.00** Х/ф **«КАМЕННЫЙ ЦВЕТОК».**

**6.00** «Всё, как у людей».

**6.10, 8.05** Мультфильмы.

**7.10** «Игра в слова». с Антоном Комоловым.

**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».

**10.00** Погода в Мире.

**10.10** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК С БУЛЬВАРА КАПУЦИНОВ».**

**12.15, 16.15, 19.15** Т/с **«ДВЕ СУДЬБЫ».**

**16.00, 19.00** Новости.

**23.55** Х/ф **«КУРЬЕР».**

**1.25** Фестиваль Авторадио.

**4.40** Х/ф **«ВЕСНА».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.05, 7.10** Сегодня. Главное.

**6.10** За гранью.

**6.35** «Дача».

**7.25** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by: Время итогов».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.20** «Врачебные тайны плюс».

**10.20** Сломать стереотипы.

**10.45** Главная дорога.

**11.20** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».

**12.10** Квартирный вопрос.

**13.10** Истории спасения.

**13.40** «Поедем, поедим!».

**14.20** Х/ф **«ВРАГИ».**

**16.20** «Секрет на миллион». Анастасия Макеева.

**18.10** «Следствие вели…».

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**19.55** Х/ф **«ЛИХАЧ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Новое Утро».

**9.30** «СДЕЛАНО». Документальный проект.

**9.50** «Тайны Беларуси».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.30** «Формула еды».

**12.00** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».

**13.05** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».

**14.10** Х/ф **«МОЙ ЧУЖОЙ РЕБЕНОК».**

**16.05** Х/ф **«ИЩУ МУЖЧИНУ».**

**19.45** «Плюс-минус».

**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.

**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.30** Х/ф **«НАПЕРЕКОР СУДЬБЕ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**5.00, 1.05** Однажды в Америке. **9.15** Библиотекарь: В поисках копья судьбы. **11.20** Сокровище Амазонки. **13.05** Мексиканец. **15.10** Афера Томаса Крауна. **17.10** Затура: Космическое приключение. **19.00** Пятый элемент. **21.10** Валериан и город тысячи планет. **23.30** Ультрафиолет.

### TV1000 ACTION

**5.40, 2.45** Ронин. **8.05** Время убивать. **10.40** S.W.A.T.: Спецназ города ангелов. **12.40** Шпион по соседству. **14.15** Дети шпионов. **15.45** Дети шпионов 2: Остров несбывшихся надежд. **17.30** Дети шпионов 3: Игра окончена. **19.00** Плохие парни. **21.00** Плохие парни 2. **23.35** Старски и Хатч. **1.15** Галвестон.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.40** Коробка. **7.40** Хороший мальчик. **9.25** Только не они. **11.10** Спутник. **13.05** Гагарин. Первый в космосе. **15.10** Притяжение. **17.10** Дикая Лига. **19.10** Тарас Бульба. **21.30** Волкодав из рода Серых Псов. **0.15** Скиф. **1.50** День до. **3.35** Курьер из «Рая».

### ТВ3

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **9.15, 9.45, 10.15** Скрипт-реалити «Слепая». **10.45** Х/ф **«ТЕМНЫЙ МИР». 13.00** Х/ф **«ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ». 15.15** Х/ф **«ПРЕЗИДЕНТ ЛИНКОЛЬН: ОХОТНИК НА ВАМПИРОВ». 17.15** Х/ф **«ВУРДАЛАКИ». 19.00** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **20.30** Х/ф **«ЯГА. КОШМАР ТЁМНОГО ЛЕСА». 22.30** Х/ф **«ТВАРЬ». 0.15** Х/ф **«ОТ ЗАКАТА ДО РАССВЕТА». 2.15** Х/ф **«ДАЛЬШЕ ПО КОРИДОРУ». 3.30** «Дневник экстрасенса с Фатимой Хадуевой». **4.15** Т/с **«БАШНЯ». 5.00** «Нечисть».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** «Лестница в небеса». **12.00, 20.00, 4.00** «Дело Гастронома №1». **13.00, 21.00, 5.00** «Вольф Мессинг: видевший сквозь время». **14.00, 22.00, 6.00** «Выхожу тебя искать». **15.00, 23.00** «Линия защиты. Встретимся в суде». **7.00** «Линия защиты. Компромат».

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.05** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ 2 : КОРИДОРЫ ВРЕМЕНИ». 3.15** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ». 5.00** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ». 6.40** Х/ф **«ЯГУАР». 8.35** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ!». 10.20** Х/ф **«НЯНЬКИ». 12.10** Х/ф **«МУЖЧИНА ПО ВЫЗОВУ 2». 13.40** Х/ф **«СКОЛЬКО У ТЕБЯ?». 15.35** Х/ф **«НЕСНОСНЫЕ БОССЫ 2». 17.35** Х/ф **«ДРУЖИТЬ ПО-РУССКИ!». 19.30** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА: РОЗЫСК ДОМАШНИХ ЖИВОТНЫХ». 21.05** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА 2: КОГДА ЗОВЁТ ПРИРОДА». 22.45** Х/ф **«СУПЕРСТАР».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 0.55, 1.50, 2.40, 3.30, 4.20, 5.20, 6.15, 7.05, 8.00** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 8.55** Т/с **«ОТЧАЯННЫЙ». 10.55, 12.00, 12.55, 13.50, 14.45, 15.40, 16.40, 17.40, 18.35, 19.30, 20.25, 21.20** Т/с **«УЧИТЕЛЯ». 22.20, 23.15** Т/с **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **12.00** Реалити-шоу «КОЛЛЕДЖ». **13.35** Х/ф **«НЕВЕЗУЧИЙ». 15.25, 21.00, 2.55** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **16.55** Х/ф **«АСТЕРИКС И ОБЕЛИКС: МИССИЯ КЛЕОПАТРА». 19.00** Х/ф **«МАЛЬЧИК В ДЕВОЧКЕ». 22.35** Х/ф **«ИЛЛЮЗИОНИСТ». 0.35** Криминал «АФЕРА В МАЙАМИ». **4.15** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.15** Теннис. WTA. Чарльстон. Четвертьфинал. **7.45** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. Пятый тур. ФК Витебск – ФК Слуцк. **9.30, 18.00** Дзюдо. Чемпионат Европы. Финалы. **11.05** Большой спорт. **11.50** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. ВРЗ (Гомель) – ЦКК (Светлогорск). **13.50** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. Пятый тур. Торпедо-БелАЗ (Жодино) – Динамо-Брест. **15.50** Волейбол. Чемпионат Беларуси. Женщины. Финал. Третий матч. **17.50, 21.00** Спорт-центр. **20.00** Футбол. На пути к ЕВРО-2020. **20.30** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **21.10** Теннис. WTA. Чарльстон. Полуфиналы. В перерыве Спорт-центр.

### EUROSPORT

**0.30, 6.00** Мотогонки. FIM Endurance. «24 часа Ле-Мана»-2020. **2.30, 8.00, 12.00** Велоспорт. «Тур Турции». 6-й этап. **4.00, 10.00** Снукер. Чемпионат мира-2020. Шеффилд. Финал. **9.30** Снукер. Joy of six. Ронни О'Салливан. **13.00** Велоспорт. «Тур Турции». 7-й этап. **15.00** Велоспорт. «Вуэльта Валенсии». 4-й этап. **16.30, 19.30, 20.45** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Первый раунд.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 16.55** Трасса А2. **6.45, 9.05, 11.45, 14.50, 17.45, 22.40, 0.40, 3.00** Итоговые новости. **7.00, 18.00** Автовинтаж. **7.30, 8.35** Резьба по стали. **8.00** Испытание на прочность. **9.25** Сделаем как надо. **9.55** Все включено. **10.35, 0.55** Тест с дядей Ваней. **11.10, 19.25, 22.55, 3.15** Возвращение легенды. **12.05, 23.45, 3.45** Стальные парни. **12.55, 23.30** Мото тест-драйв. **13.15, 1.35** Тест на «Драйве». **14.20, 18.55, 2.30** Сити-тестер. **15.05, 21.00, 4.30** Эконом-тест. **15.25, 21.20, 4.45** Хорошо забытое. **16.10, 21.55, 5.15** Советы юриста. **18.35** Школа внедорожного вождения. **19.55** АВТОбиография. **20.50** Наезд!

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.35, 8.20, 0.15, 1.05, 1.50, 2.40, 3.25, 4.15, 5.00** Австралийские золотоискатели. **9.10, 9.55, 10.40, 11.30, 12.15, 13.05, 13.50, 14.35, 18.00** Драндулеты на продажу. **15.25, 21.20, 22.10** Чудовищный карп. **16.10, 18.50** Ледовые викинги. **17.00** Канализация за пять миллиардов. **19.35, 20.30** Речные чудовища. **23.00, 23.25, 23.50** Австралийские ловцы быков.

### HISTORY

**6.15** Родовые проклятья. **6.40, 7.25, 8.10, 3.15, 4.00** Музейные тайны. **8.55, 0.45** Загадки Египта. **9.40, 10.35, 11.25, 19.25, 20.15, 1.35, 2.25** Монархи: забытые письма. **12.15, 13.05** Лондон: 2000 лет истории. **13.55, 14.40, 4.40** Расшифровка тайн. **15.25, 16.10** Тайны музеев. **16.55, 17.45, 18.35** Частная жизнь. **21.05** Разгадка тайны пирамид. **22.00** Тайная история рыцарей Храма. **22.55** Ватикан – вечный город наместников божьих. **23.50** Вена: империя, династия и мечта. **5.25** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.00** Мир природы – японские макаки. **6.55, 8.25** В поисках Султана. **7.40** Гиамо – царица гор. **9.15, 22.35** Дикий штат Карнатака, Индия. **10.05** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **10.55, 23.30** Дикий Токио. **11.55** Дикая Норвегия. **12.55, 13.50** Экспедиция в Европу. **14.45, 15.35** Неукротимая Румыния. **16.25** Волшебные горы – в сердце Германии. **17.15** Муравьиная гора Дэвида Аттенборо. **18.10, 19.05** Дикая Швейцария. **20.00, 20.50, 21.45** Уэльс: дикая земля. **0.30** Невероятные встречи с животными. **1.20** Рассказы о бурях. **2.05, 4.10, 5.00** Выживание в дикой природе. **2.55** В зоопарке Таронга. **3.45** Спасение диких медведей.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.18, 7.10** Дикий тунец. **8.03, 8.54** Авто-SOS. **9.45** Тайвань-остров рыбы. **10.30** Мир хищников. **11.32, 12.26** Враждебная планета. **13.19, 14.13** Осушить океан. **15.06** Сканируя время. **15.57, 16.49** Секретные материалы древности. **17.40, 18.30** Египет с величайшим исследователем в мире. **19.21, 20.10** Величайшие сокровища древнего мира. **21.00, 21.51** Затерянные сокровища Египта. **22.42, 23.33** Затерянные города с Альбертом Лином. **0.22, 1.08** Истории спасения. **1.53** Расследования авиакатастроф. **2.39, 3.25** Самые лучшие суперкары. **4.10, 4.56** Настоящий суперкар. **5.41** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.05, 11.05, 12.05, 13.05, 14.05, 15.05, 16.05, 17.05, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05, 22.10, 23.10, 0.10, 1.10, 2.10, 3.10, 4.10, 5.05** Рыбалка без границ. **6.30, 7.30, 8.35, 9.35, 10.35, 11.35, 12.35, 13.35, 14.35, 15.35, 16.35, 17.35, 18.35, 19.35, 20.35, 21.35, 22.40, 23.40, 0.45, 1.40, 2.40, 3.40, 4.35, 5.30** Рыбный день. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.15, 22.20, 2.20** Альтернативный сад. **6.35, 10.45, 14.45, 18.45, 22.50, 2.50** Доктор смузи. **6.50, 11.00, 15.05, 19.05, 23.10, 3.05** Постное меню. **7.00, 11.20, 15.20, 19.20, 23.25, 3.20** Секреты стиля. **7.30, 15.50, 19.50, 23.55, 3.50** Идеальный сад. **8.00, 12.20, 16.25, 20.25, 0.30, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.40, 20.40, 0.50, 4.35** Сельсовет. **8.35, 12.50, 16.55, 1.05, 4.50** 50 оттенков желе. **8.50, 13.10, 21.15, 1.20, 5.00** Умный дом. Новейшие технологии. **9.20** Травовед. **9.40, 13.40, 17.45, 21.45, 1.50, 5.30** Мегабанщики. **11.50** Школа ландшафтного дизайна. **17.10** Стройплощадка. **18.15** У мангала. **20.55** Готовим на природе.

## Беларусь 1

**6.15** Х/ф **«ДЕВУШКА С ГЛАЗАМИ ЦВЕТА НЕБА».**

**8.05** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.35** Истории спасения.

**10.10** «Зона Х». Итоги недели.

**10.45** Маршрут построен.

**11.25** Смысл жизни.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ЗАКОН СОХРАНЕНИЯ ЛЮБВИ».**

**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Вокруг планеты.

**16.00** «Повод есть».

**16.35, 19.10** Х/ф **«ВТОРОЕ ДЫХАНИЕ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«ЖЕНЫ НА ТРОПЕ ВОЙНЫ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.40** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**10.45** «Три первых свидания». Реалити-шоу.

**11.30** Х/ф **«ДЕЖАВЮ».**

**13.40** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**14.40** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.00** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.50** Х/ф **«КОМАТОЗНИКИ».**

**20.15** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«МАЛЫШ».**

**23.10** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.45** Навіны культуры.

**8.20** «Стрела» улетает в сказку». Мультфільм.

**8.45** «Вуліца поўная нечаканасцяў». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Рыбныя каўбаскі па-забалацку.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Народны майстар». Вольга Бабурына (выцінанка).

**12.15** «Бацькі». Мастацкі фільм.

**14.05** «Магія джаза». Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.

**14.55** «Архітэктура Беларусі» [СТ].

**15.10** «Зямля Саннікава». Мастацкі фільм [СТ].

**16.45** «Майстры і куміры». Кампазітар, народны артыст Беларусі Эдуард Ханок.

**17.40** «Фарбы памяці». Мастак Лазар Ран [СТ].

**18.05** «Дзяржаўная граніца». Фільм трэці «Усходні рубеж» [СТ].

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Бландзінка за вуглом». Мастацкі фільм.

**22.25** «Гадзіннік спыніўся апоўначы». Мастацкі фільм [СТ].

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** Премьера. «Доктора против интернета».

**10.35** ОНТ представляет: «Народный повар».

**11.55** Х/ф **«ЗА ДВУМЯ ЗАЙЦАМИ».**

**14.00** Т/с **«СВАДЬБЫ И РАЗВОДЫ».**

**16.20** Ко дню рождения Аллы Пугачёвой. «Мне нравится…».

**17.30** «Точь-в-точь». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Что? Где? Когда?». Весенняя серия игр.

**22.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.55** Владимир Познер и Иван Ургант в проекте «Еврейское счастье».

## СТВ

**6.30, 1.40** «Пища богов».

**9.00** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05** «Знаете ли вы что?».

**12.10, 13.40, 16.40** Т/с **«ИКОРНЫЙ БАРОН».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**21.05** «Засекреченные списки».

**22.30** Т/с **«ПАССАЖИР БЕЗ БАГАЖА».**

## Мир

**5.00** Х/ф **«ВЕСНА».**

**6.25** Мультфильмы.

**7.00** Х/ф **«КАМЕННЫЙ ЦВЕТОК».**

**8.50** «Любимые актеры». К 80-летию С. Никоненко.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10** Х/ф **«КИТАЙСКИЙ СЕРВИЗ».**

**12.10, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«ДВЕ СУДЬБЫ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**1.45** Т/с **«40+, ИЛИ ГЕОМЕТРИЯ ЧУВСТВ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.55** «Первая передача».

**11.30** «Чудо техники».

**12.20** «Дачный ответ».

**13.20** «НашПотребНадзор».

**14.15** Х/ф **«ДЕВОЧКА ИЩЕТ ОТЦА».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** Ты не поверишь!

**21.10** Х/ф **«СПАСАТЕЛЬ».**

**23.00** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.30** «Звезды сошлись».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Т/с **«ОДИНОКИЙ ОСТРОВ».**

**9.05** Х/ф **«ВОТ ЭТО ЛЮБОВЬ!».**

**11.00** ПРЕМЬЕРА. «Большая переделка».

**12.05** Х/ф **«НА ПЕРЕКРЁСТКЕ РАДОСТИ И ГОРЯ».**

**15.25** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».

**16.20** Х/ф **«ДОЧКИ- МАЧЕХИ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях».

**21.45** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**22.25** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.55** Ограбление по-итальянски. **9.15** Затура: Космическое приключение. **11.05** Ультрафиолет. **12.35** Валериан и город тысячи планет. **15.00** Пятый элемент. **17.10** Помпеи. **19.00** История рыцаря. **21.20** Братья Гримм. **23.20** Белоснежка и охотник. **1.20** Без тормозов. **2.50** Шутки в сторону 2: Миссия в Майами.

### TV1000 ACTION

**5.10** Антиганг. **7.10** Экспат. **8.55** Коломбиана. **10.40** Плохие парни. **12.40** Плохие парни 2. **15.15** Старски и Хатч. **17.00** Ю-571. **19.00** К-19. **21.20** Глубоководный горизонт. **23.05** Треугольник. **0.45** Репродукция. **2.45** Человек-мотылёк.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Медвежий поцелуй. **7.25, 4.00** Робо. **9.05** Напарник. **10.40** Защитники. **12.10** Тарас Бульба. **14.35** Волкодав из рода Серых Псов. **17.05** Он – Дракон. **19.00** Девятая. **20.55** Вурдалаки. **22.20** Затмение. **23.50** Обитаемый остров. **1.55** Обитаемый остров: Схватка.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.15** «Рисуем сказки». **8.30** «Новый день». **9.00, 9.35, 10.10, 10.45, 11.20** Скрипт-реалити «Слепая». **12.00** Х/ф **«ТЕМНЫЙ МИР: РАВНОВЕСИЕ». 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00** Т/с **«ЧЕРНОБЫЛЬ. ЗОНА ОТЧУЖДЕНИЯ». 22.00** Х/ф **«ВУРДАЛАКИ». 0.00** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **1.15** Х/ф **«ОТ ЗАКАТА ДО РАССВЕТА: КРОВАВЫЕ ДЕНЬГИ ИЗ ТЕХАСА». 2.45** Х/ф **«ОТ ЗАКАТА ДО РАССВЕТА: ДОЧЬ ПАЛАЧА». 4.00** «Дневник экстрасенса с Фатимой Хадуевой». **4.45** Т/с **«БАШНЯ». 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** «Лестница в небеса». **12.00, 20.00, 4.00** «Дело Гастронома №1». **13.00, 21.00, 5.00** «Вольф Мессинг: видевший сквозь время». **14.00, 22.00, 6.00** «Выхожу тебя искать». **15.00, 23.00** «Линия защиты. Компромат». **0.00, 1.00** «Татьянин день». **2.00, 3.00** «Неравный брак». **7.00** «Господа-товарищи. Попрыгунчики».

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.25** Х/ф **«С ВЕЩАМИ НА ВЫЛЕТ!». 2.05** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ОТ ВСЕХ БОЛЕЗНЕЙ». 4.00** Х/ф **«ОСТИН ПАУЭРС: ЧЕЛОВЕК-ЗАГАДКА МЕЖДУНАРОДНОГО МАСШТАБА». 5.40, 21.40** Х/ф **«КАК ВЫЙТИ ЗАМУЖ ЗА МИЛЛИАРДЕРА». 7.25, 19.30** Х/ф **«КАДРЫ». 9.40** Х/ф **«МУВИ 43». 11.25** Х/ф **«СУПЕРСТАР». 13.05** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО». 14.40** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 2». 16.10** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 3». 17.40** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ!». 23.30** Х/ф **«ЯГУАР».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.15, 1.05, 2.00, 2.55** Т/с **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ». 3.50** Т/с **«ПОСЛЕДНИЙ БОЙСКАУТ». 5.35, 6.35, 7.35, 8.35, 9.40, 10.40, 11.40, 12.40** Т/с **«ШАКАЛ». 13.40** Т/с **«ШЕРЛОК: СОБАКИ БАСКЕРВИЛЯ». 15.30** Т/с **«ШЕРЛОК: РЕЙХЕНБАХСКОЕ ПАДЕНИЕ». 17.20** Т/с **«ШЕРЛОК: ПУСТОЙ КАТАФАЛК». 19.05** Т/с **«ШЕРЛОК: ЗНАК ТРЕХ». 20.55, 21.45, 22.40, 23.30** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 2.00** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«16 КВАРТАЛОВ». 14.40** Х/ф **«БАЗА КЛЕЙТОН». 16.40** Х/ф **«СБЕЖАВШАЯ НЕВЕСТА». 19.00** Х/ф **«БУНТАРКА». 21.00, 0.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.35** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **23.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **1.30** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.50** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Теннис. WTA. Чарльстон. Полуфинал. **8.30, 19.30** Дзюдо. Чемпионат Европы. Финалы. **9.55** Волейбол. Чемпионат Беларуси. Женщины. Финал. Третий матч. **11.50** Футбол. Чемпионат Англии. Ньюкасл – Вэст Хэм. **13.50** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. Пятый тур. Динамо-Минск – ФК Гомель. **15.50, 21.05** Спорт-центр. **17.20** Пит-стоп. **17.50** Гандбол. Чемпионат Беларуси. СКА-Минск – Мешков-Брест. В перерыве Спорт-центр. **21.15** Теннис. ВТА. Чарльстон. Финал. **23.00** Итоги недели. **23.45** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. Пятый тур. Обзор.

### EUROSPORT

**0.00, 4.00, 9.30, 19.30, 20.45** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Первый раунд. **1.00** Гольф. «Мастерс». Обзор. **2.00** Велоспорт. «Вуэльта Валенсии». 4-й этап. **2.30, 8.00, 12.00** Велоспорт. «Тур Турции». 7-й этап. **6.00** Велоспорт. Amstel Gold. **7.00** Велоспорт. Париж – Рубе. **13.00** Велоспорт. «Тур Турции». 8-й этап. **15.00** Велоспорт. Amstel Gold. Женщины. **16.00** Велоспорт. Amstel Gold. Мужчины. **18.15** Велоспорт. «Вуэльта Валенсии». 5-й этап.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 16.55** Трасса А2. **6.45, 18.55** Проверка на дороге. **7.30** Резьба по стали. **7.55, 10.10, 13.05, 15.55, 18.40, 23.20, 1.10, 3.35** Итоговые новости. **8.15** Испытание на прочность. **8.50** Все включено. **9.30** Сделаем как надо. **9.55** Автолайф. **10.30, 0.35** Тест с дядей Ваней. **11.10, 19.30, 22.50, 3.05** Возвращение легенды. **11.45, 20.00, 23.40** АВТОбиография. **12.40, 1.30** Мото тест-драйв. **13.25, 1.40** Тест на «Драйве». **14.25, 2.40** Сити-тестер. **14.55, 21.05, 4.35** Эконом-тест. **15.15, 21.20, 4.50** Хорошо забытое. **16.15, 22.05, 5.20** Советы юриста. **17.45** Школа внедорожного вождения. **18.05** Автовинтаж. **20.50, 21.55** Обновление. **3.50** Стальные парни.

### EXPLORE

**6.15** Рыбалка со звездами. **6.45, 7.35, 8.30, 9.20, 10.10** Речные чудовища. **11.05** Чудовищный карп. **11.55, 12.40, 13.30, 14.15, 15.00, 15.50, 16.35, 17.25, 18.10, 19.00, 19.45, 20.35, 21.20, 22.10** Австралийские золотоискатели. **22.55** Снос в Австралии. **23.45, 0.10, 0.40, 1.05, 1.30, 1.55, 2.20, 2.45, 3.10, 3.40, 4.05, 4.30, 4.55, 5.20** Нефритовая лихорадка.

### HISTORY

**6.10, 6.55, 7.40, 3.10, 3.50** Музейные тайны. **8.25, 0.45** Загадки Египта. **9.15, 10.05, 10.50, 1.30, 2.20** Титаник: истории из глубины. **11.40, 12.25** Тайны музеев. **13.10, 14.00** Лондон: 2000 лет истории. **14.50, 15.35, 4.35** Расшифровка тайн. **16.20** Частная жизнь. **17.10, 18.10** История христианства. **19.15** Тайна Копья Судьбы. **20.10** Реформация: священная война в Европе. **21.05** Разгадка тайны пирамид. **22.00** Операция «Золотая лихорадка». **22.55, 23.50** Вена: империя, династия и мечта. **5.20** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.20, 23.55** Волшебные горы – в сердце Германии. **7.15, 8.00** Неукротимая Румыния. **8.50** Мир природы – японские макаки. **9.40** Гиамо – царица гор. **10.30** В поисках Султана. **11.15** Дикий штат Карнатака, Индия. **12.10, 17.25** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **12.55, 16.20** Дикий Токио. **13.55, 14.45, 15.35** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **18.10, 19.05** Дикая Швейцария. **20.00, 20.50, 21.55** Уэльс: дикая земля. **23.00** Муравьиная гора Дэвида Аттенборо. **0.45** Невероятные встречи с животными. **1.35** Рассказы о бурях. **2.20, 5.15** Выживание в дикой природе. **3.10** В зоопарке Таронга. **4.00** Спасение диких медведей. **4.25, 4.50** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.19** Короли рыбалки. **8.02, 8.53, 2.00, 2.45** Авто-SOS. **9.44** Япония: между небом и землей. **10.35** Древний Китай с высоты птичьего полета. **11.25** Нераскрытые тайны второй мировой войны. **13.07, 13.57, 14.46** Остров бунтарей. **15.36, 16.33, 17.29** Деревянная кожа. **18.28, 19.18, 20.09, 21.00, 21.51** Инстинкт выживания. **22.42, 23.33** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **0.22, 1.08** Вторая мировая война: Ад под водой. **3.33** Расследования авиакатастроф. **4.19, 5.05** Машины: Разобрать и продать. **5.40** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 2.10** Рыбалка в России. **6.30, 10.30, 18.30, 2.40** Охота в Удмуртии. **7.00, 23.05, 3.10** Безграничная рыбалка. **7.30, 11.35, 15.20, 19.25, 23.35, 3.35** Мир рыболова. **8.00** Поехали на рыбалку! **8.30, 12.35, 16.20, 20.30, 0.40, 4.30** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **9.00, 13.10, 16.55, 1.05, 5.00** Сомы Европы. **9.35, 1.40, 5.35** Зима. Удочка. Поклевка. **10.00, 14.00, 17.55** Андрей Старков и его команда. **11.05** Мой мир – рыбалка. **12.05, 20.00, 0.05** Рыбалка 360. **13.40, 17.25, 21.35** Готовим на природе. **14.30** Кодекс охотника. **14.50, 19.00** Нахлыст без границ. **15.50, 4.05** Рыбалка сегодня XL. **17.40, 21.50** Давай зарубимся! **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05** Рыболовная Россия. **22.35** Охотник-одиночка.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 22.20** Альтернативный сад. **6.35, 10.45, 14.45, 18.45, 22.50, 2.50** Доктор смузи. **6.50, 11.00, 15.05, 19.05, 23.10, 3.05** Постное меню. **7.00, 15.20, 19.20, 23.25, 3.20** Секреты стиля. **7.30, 11.50, 15.50, 19.50, 23.55, 3.50** Идеальный сад. **8.00, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.40, 16.40, 20.40, 0.50, 4.35** Сельсовет. **8.35, 12.55, 1.05** 50 оттенков желе. **8.50, 13.10, 17.10, 21.15, 1.20, 5.00** Умный дом. Новейшие технологии. **9.20** Траловед. **9.40, 13.40, 17.45, 21.45, 1.50, 5.30** Мегабанщики. **11.20** Стройплощадка. **14.15, 18.15, 2.20** У мангала. **16.55, 20.55, 4.50** Готовим на природе.

# Як немцы мадэрнізавалі маёнткі на Вілейшчыне

## Марэк Лампрэхт – пра гісторыю сваёй сям'і

ВІЛЕЙКА

**Ад канца 19 стагоддзя на Вілейшчыне і Маладзечаншчыне жылі і працавалі прадстаўнікі роду Лампрэхтаў. Яны будавалі ў мясцовых маёнтках заводы і вадзяныя млыны, мадэрнізавалі панскія гаспадаркі і паспяхова кіравалі імі.**



Фота з сямейнага архіва аўтара.

Фота сям'і Лампрэхтаў, зробленае ў Літве, перад ад'ездам Генрыха-малодшага ў Вязынь. Злева направа, другі рад: дачка Марыя, Генрых-старэйшы, яго жонка Іаанна (Ганна), дачка Эма. Злева направа ў трэцім радзе: невядомая жанчына, сыны Эмы: Юліюш-малодшы і Густаў, Стэфанія, жонка Генрыха-малодшага, Эміль, Караль, Генрых-малодшы.

Сёння іх нашчадак, Марэк Лампрэхт, жыве ў Варшаве і даследуе свой род. Для чытачоў «Рэгіянальнай газеты» Марэк падрыхтаваў некалькі матэрыялаў пра гісторыю роду Лампрэхтаў.

### Як усё пачалося з партрэта мужчыны з сівой барадой

За сорак гадоў жыцця я ніколі не цікавіўся гісторыяй свайго прозвішча Лампрэхт. Хацця ведаў, яно адрозніваецца ад польскага. Яшчэ ў школе я даведаўся, што мой бацька нарадзіўся ў Сібіры. Але чаму, я не пытаўся. Ведаў, што дзядуля на вайне браў Берлін, але падрабязна гэта мяне ніколі не цікавіла. У хаце маёй бабулі на сцяне вісеў здымак дзеда ў форме. Але я так і не даведаўся яго сапраўдную гісторыю.

Расследаванне пра свой род я пачаў пяць гадоў таму са сваім братам Пятром, манахам-аўгусцінцам з Кракава. Усё пачалося з аднаго старога фота ў альбоме. На ім быў мужчына з сівой барадой. Ніхто ў сям'і не ведаў, хто гэта. Таму мы вырашылі даведацца разам.

На фотаздымку быў Генрых (Henrich) Лампрэхт – наш прапрадзед. У 1855 годзе, калі яму было каля 30, ён прыбыў у Літву. Як інжынер з Усходняй Прусіі ўладкаваўся на будаўніцтва чыгункі ад Коўна да прускай мяжы.

Тады тут працавала французская кампанія «Эрнэста Гоена» з Парыжа. Генрых пабудаваў у Коўне знакаміты чыгуначны тунэль, які спраектаваў французскі інжынер Перо, і чыгуначны мост праз Нёман, спраектаваны вядомым польскім інжынерам **Станіславам Кіербедзам** – будаўніком першага аўтамабільнага моста ў Варшаве (1859–1864).

### Генрых – кіраўнік маёнтка Тышкевіча

Бываючы часта па справах у Вільні, Генрых сустракаў там **Іаанну (Ганну)** – прыгожую шляхцянку з роду Шварцаў у Вільні. З ёй прапрадзед неўзабаве ажаніўся. Першае дзіця, **Антаніна**, нарадзілася ў Казловай Рудзе каля Коўна ў 1861 годзе. Тут яны перажылі паўстанне 1863 года. Нямецкі асаднік Генрых у ім не ўдзельнічаў.

Прапрадзед працаваў распарадчыкам на лесанарыхтоўках у Казловай Рудзе, дзе ў 1865 годзе нарадзілася другая дачка – **Эма**, а пазней і сыны – **Генрых-малодшы**, **Эміль** і **Караль**.

У 1872 годзе Генрых-старэйшы атрымаў запрашэнне ад графа **Тышкевіча** кіраваць яго новым маёнткам у Лосевічах у Літве (павет Серэя). Хутар быў буйны, некалькі фермаў, некалькі вёсак і шмат прамысловых прадпрыемстваў. Тут прапрадзед кіраваў 15 гадоў, пабудаваў і арганізаваў маёмасную інфраструктуру.

Мясцовасць была літоўскай, але тут жыло шмат нямецкіх пасяленцаў усіх спецыяльнасцяў. Тады тэхнічных вучылішчаў не было. Але найлепшая школа была ў бацькі, таму ад Генрыха яго сыны там вучыліся інжынерным прафесіям.

### Эма і Юліюш. Млын у Пасерэе

У маёнтку працавала яшчэ адна нямецкая сям'я – **Рэйнхардт**. Неўзабаве Эма Лампрэхт і **Юліюш Райнхардт** ажаніліся і пераехалі ў вёску Пасерэе каля Серэе, дзе атрымалі ў спадчыну вадзяны млын з 15 гектарамі і фермай. У дзень вяселля Эме было 16, а Юлію 28 гадоў, але іх аб'яднала сапраўднае каханне. Першы іх сын, **Юліюш-малодшы**, нарадзіўся праз два гады, сын **Густаў** – у 1885. Таксама ў пары была дачка **Хелена**, якая памерла ў тры гады. Праз некалькі гадоў ад інфекцыйнай хваробы памірае і муж Эмы. Маладая жанчына застаецца на млыне разам з двума маленькімі дзецьмі.

Каб дапамагаць працаваць на млыне і ферме, Генрых-старэйшы пераязджае да дачкі ў Пасерэе, а сыны бяруць на сябе кіраванне маёнткам Лосевічы і працягваюць працаваць, будуючы новыя фермы.

Млын у Пасерэе быў вадзяны вальцовы – вельмі сучасны па тым часе, адзіны на ўсёй тэрыторыі. Можна меркаваць, што дзякуючы гэтаму сям'я квітнела фінансава.



Так сёння выглядаюць рэшткі млына ў Пасерэе.

### Як нашчадкі шукалі рэшткі млына

Мы даведаліся пра гісторыю ў Пасерэе дзякуючы шматлікім запісам евангельскай царквы ў Серэе, якія не былі знішчаны пасля Другой сусветнай вайны. Год таму разам з Пятром мы адправіліся ў Літву на пошукі гэтага месца. У нас былі старыя рускія карты, на якіх кропкай быў пазначаны млын. У густых лясах было цяжка знайсці шлях да гэтага месца, але пасля некалькіх спроб, у супрацоўніцтве з нашым дзядзькам у Польшчы, які сачыў за намі ў жывым эфіры, мы дабраліся туды. Праз 150 гадоў млына не было, хаця старыя падмуркі засталіся. Побач – новы дом. Яго гаспадар, літовец **Ёзеус**, сказаў, што пабудаваў яго на падмурку старога дома, які быў вельмі добры.

### Як Генрых-малодшы трапіў у Вязынь

Што было далей з сям'ёй? У канцы 19 стагоддзя сыны Генрыха выраслі і хацелі пайсці на ўласныя фермы і пачаць сваё дарослае жыццё. Генрых-малодшы, старэйшы з братоў, атрымаў запрашэнне ад **Іпаліта Гецэвіча** з маёнтка Вязынь Вілейскага павета.

Гецэвіч як узорны землеўладальнік хацеў мадэрнізаваць ферму новымі будынкамі і машынамі. Яму было цяжка знайсці патрэбных людзей на месцы. Магчымага кандыдата ён шукаў у Вільні. І вось хтосьці рэкамендаваў яму маладога інжынера Генрыха Лампрэхта.

Перад ім стаяла няпростая задача – заснаваць новую маёмасць у Вязыні. Ён прыехаў сюды ў 1894 годзе. Перад ад'ездам сям'я сфатаграфавалася разам.

**Марэк ЛАМПРЭХТ,**
**Варшава.**

*Працяг будзе.*

● КАЛЯНДАР

9 КРАСАВІКА

**1835.** Нарадзіўся **Ялегі Пранціш Вуль**, беларускі паэт. Памёр у 1880-я.

10 КРАСАВІКА

**2010.** У выніку авіякатастрофы пад Смаленскам загінулі прэзідэнт Польшчы **Лех Качыньскі**, шэраг членаў урада, Сената, дэпутатаў Сейма, ваенных, рэлігійных дзеячаў.

11 КРАСАВІКА

**2011.** Адбыўся выбух у мінскім метро на станцыі «Кастрычніцкая».

12 КРАСАВІКА

**1926.** У Вільні пачаўся працэс, г.зв. «Працэс 94-х» – суд, учынены ўладамі міжваеннай Польшчы над дзеячамі беларускага нацыянальнага руху.

**1961. Юры Гагарын** на караблі «Усход-1» здзейсніў першы палёт чалавека ў космас.

13 КРАСАВІКА

**1930.** У Лодзі заснаваны Музей мастацтва. Адным з арганізатараў музея выступіў жывапісец і тэарэтык мастацтва **Уладзіслаў Страмінскі**, жыццё і творчасць якога звязаны з Вілейкай.

14 КРАСАВІКА

**1885.** У вёсцы Максімаўка ля Гранічаў на Маладзечаншчыне нарадзіўся **Сымон Рак-Міхайлоўскі**, беларускі публіцыст, рэдактар, паэт, грамадска-палітычны дзеяч. Пасол сейма Другой Рэчы Паспалітай. Аўтар музыкі на словы Максіма Багдановіча «Зорка Венера». Расстраляны ў 1938 годзе ў Мінску па прыгавору НКВД. Рэабілітаваны.



15 КРАСАВІКА

**1589. Крыштаф Радзівіл Пярун** стаў вялікім гетманам Літоўскім. Адным з маёнткаў гетмана быў Валожын.



**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Як немцы дапамагаюць сірыйскім бежанцам

**6 красавіка стала вядома, што Беларусь акажа гуманітарную дапамогу Сірыі. У арабскую краіну накіруюць лекі, цукар, трансфарматары, грузавую і будаўнічую тэхніку – больш, чым на адзін мільён рублёў. Гэта не першая гуманітарная дапамога сірыйцам.**



Фота borgenproject.org.

Сірыйская сям'я ў лагеры для бежанцаў у Германіі.

«Рэгіянальная газета» расказвае, як пачаўся ваенны канфлікт у Сірыі і як Германія стала адной з галоўных краін свету, што дапамагае сірыйскім бежанцам.

## Грамадзянская вайна ў Сірыі

Напрыканцы зімы 2011 года ў Сірыі ўспыхнулі мірныя пратэсты. Яны разглядаліся як частка «арабскай вясны» – супраціўленне рэжыму **Башара Асада**. У хуткім часе перараслі ў грамадзянскую вайну. У ваенны канфлікт у Сірыі ўцягнутыя розныя сілы – замежныя краіны і арганізацыі.

Летам 2011 года масавыя пратэсты перараслі ў маштабны ўзброены канфлікт. Асноўныя патрабаванні апазіцыі ўключалі адстаўку Асада, адмену надзвычайнага становішча, што дзейнічае ад 1962 года, і правядзенне ў Сірыі дэмакратычных пераўтварэнняў.

Першапачаткова баявыя дзеянні вяліся паміж арміяй і фарміраваннямі «Свабоднай сірыйскай арміі». Пасля ў канфлікт уступілі ісламскія тэрарыстычныя арганізацыі – а гэта стала падставай для пачатку ваеннай інтэрвенцыі ЗША і яе саюзнікаў. Пасля ўступлення ў канфлікт Кааліцыйных войскаў Расія дамовілася правесці сумесна з Асадам ваенную аперацыю.

Канфлікт у Сірыі стаў адной з галоўных прычын еўрапейскага міграцыйнага крызісу. У 2011 годзе міжнародная супольнасць прымала некалькі спроб для палітычнага ўрэгулявання ў Сірыі. Міжнародныя арганізацыі падверглі крытыцы практычна ўсе бакі, у тым ліку ўрад Сірыі, тэрарыстычныя і апазіцыйна паўстанцкія групоўкі, Расію, Турцыю і Кааліцыйныя сілы пад кіраўніцтвам ЗША за сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека і масавыя забойствы.

## Палітыка Германіі ў дачыненні да сірыйскіх бежанцаў

У 2015 годзе канцлер Германіі **Ангела Меркель** заявіла, што яе краіна гатовая прыняць сірыйскіх бежанцаў незалежна ад таго, у якой краіне Еўрасаюза яны апынуліся спачатку. Такім чынам, Германія стала першым членам ЕС, які парушыў Дублінскую канвенцыю 1990 года, на падставе якой бежанцы маглі прасіць прытулак толькі ў той краіне, мяжу якой перасеклі першай.

Пасля заявы Меркель толькі за 2015 год па ўсёй краіне зарэгістравалі больш за мільён бежанцаў. Амаль 430 тысяч з іх прыбылі з Сірыі.

З таго часу ў Германіі адбыўся шэраг нападаў і тэрактаў з удзелам выхадцаў з краін Бліжэйшага Усходу і паўночнай Афрыкі. У Германіі актывізаваўся ўльтраправы рух, а Меркель падверглася жорсткай крытыцы. Аднак шматлікія нямецкія сацыёлагі сцвярджаюць, што Ангела Меркель правільна зрабіла.

Наплыў бежанцаў, як меркавалі Меркель і яе паплечнікі, стаў прытокам сіл для эканомікі Германіі. Сацыёлагі падлічылі, што пасля пяці гадоў жыцця ў Германіі на пастаянную працу ўладкоўваецца амаль палова імігрантаў. Па дадзеных нямецкага Інстытута вывучэння працоўнай занятасці, 49% бежанцаў апошняй хвалі (тыя, хто прыехаў пасля 2013 года), знайшлі сабе пастаянную працу.

**По мінімальных падліках, штогод Германія выдаткоўвае на бежанцаў больш за 20 мільярдаў еўра, а па максімальных – каля 55 мільярдаў. Трэба заўважыць, што трацiна гэтай сумы сыходзіць на дапамогу бежанцам за межамі краіны.**

Вясной 2019 года газета Welt правяла апытанку наконт бежанцаў. Большасць з рэспандэнтаў пагадзіліся з меркаваннем: «Большасць тых, хто хадайнічае аб прытулку, насамрэч не праследуецца ў сваіх краінах». Аднак большасць апытанак усётакі сведчаць пра тое, што каля 70-80% немцаў згодныя, што бежанцам трэба дапамагаць.

## Як бежанцы інтэгруюцца ў Германіі

Даследаванне Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця і Еўрасаюза сведчыць аб тым, што імігранты ў Германіі інтэгруюцца больш паспяхова, чым у многіх іншых краінах. Станоўчая дынаміка звязаная з тым, што нямецкія ўлады пачалі надаваць увагу моўным курсам і праграмам па інтэграцыі, на якія апошнім часам выдаткавалі шмат сродкаў.

Курс па інтэграцыі складаецца з двух частак: нямецкая мова і метады сацыяльнай адаптацыі. Моўная частка складае 600 акадэмічных гадзін, пасля чаго здаецца іспыт на ўзровень валодання мовай. Курс абавязковы для іншаземцаў з правам знаходжання ў Германіі. Выключэнне робіцца для тых, хто ўжо валодае нямецкай. Вызваліць ад курса можа толькі профільнае ведамства па справах мігрантаў.

Міграцыйная палітыка Ангелы Меркель, якая адчыніла дзверы сотням тысяч сірыйскіх бежанцаў і заклікала іншыя еўрапейскія краіны зрабіць гэтак жа сама, дорага ёй абышлася. Меркель страціла частку электарату на рэгіянальных выбарах і выбарах у Бундэстаг.

– Меркель не адкрыла межы, але гэта не зусім так. Яна проста прымяніла існуючы закон аб свабодзе перасоўвання ўнутры Еўропы. Тут, хутчэй, гаворка ідзе не пра тое, што яна нешта адкрыла, яна проста не стала нічога закрываць, – тлумачыў палітолаг Свабоднага ўніверсітэта Берліна **Крыстаф Нгуен** у інтэрв'ю Бі-бі-сі.

Сацыёлагі сцвярджаюць, што ў далейшай перспектыве Германія толькі выйграе ад наплыву мігрантаў.

Па дадзеных Федэральнага дэпартаменту па міграцыі і бежанцах, у Германіі ў пошуках працы знаходзіцца каля 450 тысяч бежанцаў. Усе яны зарэгістраваныя на біржы працы і ў розных бюро па працаўладкаванні. Пры гэтым, згодна з апошнімі дадзенымі дэпартаменту, 17% з тых, хто праходзіць праграмы па інтэграцыі, элементарна не навучаныя грамаце і іх будучыня па ўладкаванні пад вялікім пытаннем.

Немцы тлумачаць галоўнае адрозненне інтэграцыі бежанцаў у Германіі ад інтэграцыі ў іншых еўрапейскіх краінах з дуальнай сістэмай адукацыі.

**У Германіі амаль немагчыма ўладкавацца на працу толькі з дыпломам, але без досведу, і наадварот.**

Сістэма пабудаваная так, што калі чалавек вучыцца любой спецыяльнасці, то ён паралельна засвойвае яе практычна.

**Настасся УТКІНА.**

# «Дарогі – боль нашага пасёлка». Жыхары Чысці дабіваюцца рамонту дарог

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі некалькі дзесяцігоддзяў таму Чысць была ўзорным пасёлкам, які называлі «маленькай Швейцарыяй», то цяпер жыхары некалькі год дабіваюцца рамонту дарог.**

**Настасся Еўстраценка** расла ў суседнім Красным. У Чысць выйшла замуж, дзе гадуе з мужам двое дзяцей, працуе на ўдалёнцы маркетолагам.

– Прыгадваю, якой была Чысць гадоў 15–20 таму, – дзеліцца жанчына. – Мы прыходзілі сюды на Дзень будаўніка, гэта было такое пышнае свята! З таго часу захаваўся вобраз Чысці як добраўпарадкаванага і чыстага пасёлка. Падавалася, што гэта горад, так тут усё было дагледжана. Зразумела, што тады квітнела «Забудова», і прадпрыемства клапацілася ў тым ліку пра дарогі.

## Ямачны рамонт праблему не вырашае

Калі ж жанчына пераехала да мужа ў Чысць, яе чакала з кожным годам усё горшая карціна. Чысцінцы стварылі чат, у якім могуць абмяркоўваць праблемы пасёлка. Там уздымаюцца розныя тэмы – бадзяжных жывёл, асвятлення, засмечанасці, але самая папулярная і вострая – дарогі.

– Дарогі – боль нашага пасёлка, – тлумачыць чысцінка. – Яшчэ горш ад таго, што мы памятаем добрыя дарогі, ездзілі па іх.

Папярэдні старшыня Чысцінскага сельвыканкама **Анатоль Пяцюшык** сустракаўся з ініцыятыўнай групай жыхароў, каб абмеркаваць гэта пытанне. Тады, у 2017 годзе, вырашылі, што раз грошы на дарогу з бюджэту не размеркавалі, то неабходна іх дабівацца. Стварылі петыцыю ў электронным і папяровым выглядзе. За тыдзень сабралі каля 850 подпісаў, накіравалі ў «Камунальнік», райвыканкам, Пяцюшыку – старшыня сельвыканкама павінны ж ведаць, чым незадаволеныя жыхары.

Пасля гэтага зрабілі ямачны рамонт, які толькі прыхаваў праблему на год.

– Не ведаю, чаму, але праз год ямы толькі выраслі ў памеры, – прыгадвае Настасся. – І мы зноў сутыкнуліся з той жа праблемай. Ямачны рамонт пытанне не вырашыў, дарогі зноў прыйшлі ў нягоднасць. У гэтым жа годзе дарожныя работнікі перасягнулі сябе – закідвалі ямкі пяском з камянямі. У любым выпадку ямачны рамонт – часовая мера, а не вырашэнне праблемы.

## Прыйдзем на суботнік, але дарогі самі не зробім

Жыхарка пасёлка разважае, што, безумоўна, цяперашні старшыня сельвыканкама **Юры Філістовіч** не адзін адказвае за стан дарог. Але жыхарам хацелася б бачыць, што гэта праблема хвалюе і яго.

– Ён жа і як жыхар пасёлка бачыць усе гэтыя праблемы, – разважае жанчына. – Калі гэта такое вострае пытанне, то яго пастаянна трэба трымаць на кантролі, дабівацца мэты, а не задавальвацца тым, што ёсць. Бо так у нас заўсёды будуць адны пытанні – з дзіцячымі пляцоўкамі, асвятленнем, бадзяжнымі жывёламі. І ўсе – невырашальныя. Калі б старшыня паказаў, як дабіваецца вырашэння праблем, то заслужыў бы павагу на шмат год наперад!

Жанчына падкрэслівае, што не здымае адказнасці за знешні выгляд пасёлка з жыхароў. Дзяцей і падлеткаў бацькі павінны вучыць падтрымліваць чысціню, не засмечваць населены пункт. Некаторыя дарослыя таксама дазваляюць сабе не даносіць смецце да ўрны. Таму жанчына ахвотна падтрымлівае ідэі валанцёрскіх суботнікаў – не ўсё ж павінны рабіць камунальныя работнікі.

– У плане чысціні мы можам і самі дапамагаць, – лічыць жыхарка. – Але дарогі самі мы не зробім.

## Жыхары гатовы скінуцца на дарогу

Настасся не выключае і такога варыянту – калі б у фінансаванні ўдзельнічалі самі жыхары. Бо калі скласці выдаткі, якія аддаюць на рамонт аўтамабіляў, то, можа, выгадней накіраваць іх на рамонт дарог.

Жыхарка Чысці **Юлія Араноўская** адзначае, што 7 красавіка ў пасёлку пачалі рабіць ямачны рамонт. Жанчына лічыць, што такая мера не толькі часовая, але і небяспечная, бо колы машын могуць няўдала каменьчыкі разносіць:

– Аднойчы мне такі камень у нагу трапіў, было балюча. А калі б трапіла ў вока майму дзіцяці?

Жыхары Чысці, каб пасадзейнічаць рамонту, стварылі петыцыю на адрас Маладзечанскага райвыканкама. У ёй падрабязна распісалі, на якіх участках пасёлка рамонт дарог неабходна рабіць тэрмінова. Жыхары спадзяюцца, што ўлады іх просьбу пачуюць і адгукнуцца.

У размове з карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты» старшыня Чысцінскага сельвыканкама **Юры Філістовіч** адзначыў, што па гэтым пытанні жыхары могуць звярнуцца да яго па правілах, прадугледжаных законам «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб».

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота забяспечанае Юліяй АРАНОЎСКАЙ.

Чысцінцы скардзяцца, што дарогі ў пасёлку не выратуе ямачны рамонт.



7 красавіка ў Чысці праводзілі ямачны рамонт.

## Міністэрства аховы здароўя забараніла аптэкам прадаваць спіртавыя настойкі па начах

У аптэках у Беларусі ад 21:00 да 8:00 больш не будуць прадаваць спіртазмяшчальныя лекі. Гаворка ў тым ліку ідзе пра кроплі карвалолу, супакаяльныя кроплі, настойкі сардэчніка і календулы. Пра гэта гаворыцца ў пастанове Міністэрства аховы здароўя ад 23 лютага 2021 г. №14.

Пастанова Міністэрства аховы здароўя ад 23 лютага 2021 года №14 уносіць змяненні ў пастанову ведамства ад 27 снежня 2006 года №120. Цяпер у аптэках, у тым ліку ў бальніцах, не будуць прадаваць спіртазмяшчальныя лекавыя прэпараты ад 21:00 да 8:00.

У пералік трапіў 21 прэпарат. Гэта дыяратакан, дыяратакан-плюс, настойкі аралії, жэньшэню, элеўтэракоку, календулы, эхінацэі пурпурнай, мурашыны спірт, барбавал, настойка кораня валяр'яны, карвалол, настойкі півоні, сардэчніка і некаторыя іншыя.

**Паводле pravo.by.**

## Адміністрацыйную справу за Масленіцу ў Крэве спынілі

СМАРГОНЬ

Пра гэта паведаміў жыхар Крэва, фатограф, арганізатар свята **Сяргей Гапон**.

> – 31 сакавіка атрымаў ліст з міліцыі, што «блінную» адміністрацыйную справу супраць мяне спынілі праз адсутнасць злачынства, – кажа Сяргей.

Ён таксама адзначыў, што спадзяванні на такое развіццё падзей у яго былі. Але не выключаў і адваротнага зыходу справы.

Нагадаем, што Сяргей Гапон 14 сакавіка зладзіў Масленіцу на сваім падворку. Людзі танцавалі, спявалі, палілі вогнішча, частаваліся блінамі.

Свята адбывалася на схіле Юравай гары, на прыватным падворку Сяргея. За гэта яму ўручылі позву для дачы пісьмовых тлумачэнняў і ўзбудзілі адміністрацыйную справу па артыкуле 24.23 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях – парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Еўрасаюз адмовіўся выдзяляць грошы на рэканструкцыю трасы ад Мінска да Літвы

АШМЯНЫ

Дарога праходзіць і праз наш рэгіён.

Еўрапейскі інвестыцыйны банк (ЕІБ) прыпыніў фінансаванне рэканструкцыі трасы М7/Е28 Мінск – Ашмяны – мяжа Літвы. Пра гэта паведаміў старшыня Гродзенскага аблвыканкама **Уладзімір Каранік**.

У адпаведнасці з Дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмай на 2021 год на рэканструкцыю аўтамабільнай дарогі М7/Е28 Мінск – Ашмяны – мяжа Літвы прадугледжанае вылучэнне беларускім складнікам у рамках праекта «транспартная супольнасць». Названыя сродкі будуць накіраваныя на падрыхтоўчыя работы па рэканструкцыі аб'екта. Фінансаванне за кошт сродкаў Еўрапейскага інвестыцыйнага банка па гэтым праекце прыпыненае. У цяперашні час урадам адшукваюцца дадатковыя крыніцы фінансавання, – сказаў Каранік.

Мадэрнізацыю трасы М7, якая злучае Мінск і мяжу з Літвой, планавалася пачаць у 2020 годзе. Працягласць участка – 106 км. Агульны аб'ём фінансавання праекта – 110 мільёнаў еўра, з якіх 20,5 мільёна – на рэканструкцыю пункта пропуску «Каменны Лог». Еўрапейскі інвестыцыйны банк выдзеліў на гэтыя мэты крэдыт у памеры звыш 100 мільёнаў еўра тэрмінам на 29 гадоў, казалі ў Мінтрансе.

> Пасля ўвядзення ў 2020 годзе заходніх санкцый у дачыненні да Беларусі апорны банк Еўрасаюза прыпыніў супрацоўніцтва з афіцыйным Мінскам.

У апошні раз капітальны рамонт дарогі М7 рабілі больш за 20 гадоў таму, пасля гэтага яе стан падтрымлівалі бягучым рамонтам. Мадэрнізацыя прызначалася для павышэння прывабнасці трасы як для пасажырскіх, так і грузавых перавозак.

**Паводле Tut.by.**



Фота з групы vk.com/krasnaje.

Краснае. Восенню 2020 года тут здарылася забойства.

# Налічылі больш за 38 удараў нагамі і рукамі

## Жыхара Краснага асудзілі на 15 год за забойства жонкі

МАЛАДЗЕЧНА

**1 красавіка агучылі прысуд жыхару Краснага. Яго прызналі вінаватым у забойстве жонкі з асаблівай жорсткасцю і далі 15 год калоніі ўзмоцненага рэжыму. Пра гэта нам паведамілі сваякі загінулай жанчыны.**

### Сястра загінулай: Шкада чалавека, які зрабіў горш сабе і нам усім

Пра суд і прыгавор мы паразмаўлялі з роднай сястрой загінулай, Таццянай:

> – Канешне, сястру не вярнуць. Таму, з аднаго боку, мне нават пажыццёвае зняволенне падаецца недастатковым пакараннем. А з іншага, шкада гэтага чалавека – ён зрабіў горш не толькі ўсім нам, але і сам сабе.

Яго ж не раз папярэджвалі пра тое, што можа адбыцца. А ён, відаць, думаў, што ў чарговы раз паб'е жонку, яна паляжыць у бальніцы і зноў прыйдзе да яго.

Хацелася б, каб за кратамі гэты чалавек зразумеў, што ўчыніў. Ну, не хацеў ён жыць з маёй сястрой, хай бы не жыў. Але навошта было яе забіваць?

> На целе сястры эксперты налічылі больш за 38 удараў.

Таццяна падзялілася, што збіраецца падаваць іск на матэрыяльную кампенсацыю. Усё ж трэба і магілу сястры добраўпарадкаваць.

### Як адбылася трагедыя

Нагадаем, што забойства ў Красным здарылася ў ноч з 2 на 3 кастрычніка мінулага года. Тады супрацоўнікі крымінальнага вышуку затрымалі 38-гадовага жыхара вёскі Краснае, якога падазравалі ў забойстве 35-гадовай жонкі. Пра начную трагедыю на лінію 102 паведаміў 41-гадовы мясцовы жыхар, які ўбачыў жанчыну ў лужыне крыві без прыкмет жыцця ў суседскім двары.

Высветлілася, што паміж парай узнік канфлікт. Муж стаў біць жонку рукамі і нагамі па розных частках цела.

> Збіццё працягвалася ў двары прыватнага дома. Муж цягаў жонку за валасы, біў, ад чаго пацярпелая памерла на месцы. Гаспадар дома, дзе адбылася трагедыя, не ўмешваўся ў канфлікт.

Выпадковым сведкам трагедыі стаў сусед, які прыбег, пачуўшы крыкі і лаянку за плотам. Мужчына заспеў нецвярозага мужчыну. Той стаяў над скрываўленым целам забітай. Пасля паспрабаваў уцячы, але быў затрыманы.

> Сусед выклікаў «хуткую дапамогу» і праваахоўнікаў. Медыкі канстатавалі смерць пацярпелай. Паводле папярэдніх вынікаў, прычынай гібелі стала тупая спалучаная траўма галавы, тулава і канечнасцяў.

Падазраваны на момант затрымання быў моцна п'яны, гэта пацвердзіла экспертыза. Што менавіта стала прычынай учынку, мужчына адразу патлумачыць не змог.

> Затрыманы не адмаўляў сваёй віны і напісаў яўку з пакаяннем.

Яго дзеянні следчыя кваліфікавалі па частцы 1 артыкула 139 КК Рэспублікі Беларусь – «Забойства». Санкцыя артыкула прадугледжвае пазбаўленне волі ад 6 да 15 гадоў. Ён атрымаў максімальна магчымы тэрмін па артыкуле.

У пары застаўся сын-падлетак. Цяпер хлопчыка выхоўваюць сваякі.

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Скульптар, мастак, музыкант і паэт зліліся ў адной асобе

## Да 75-годдзя Уладзіміра Церабуна

СМАРГОНЬ

**11 красавіка святкуе свой 75-гадовы дзень нараджэння вядомы беларускі мастак, скульптар, графік, сябра Саюза мастакоў Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, ганаровы грамадзянін Смаргоні, выпускнік смаргонскай СШ №1 Уладзімір Церабун.**

### За што Смаргонь удзячная скульптару

Дыяпазон творчых набыткаў і грамадскіх ініцыятыў Уладзіміра Васільевіча вельмі шырокі, хапіла б на кнігу. А калі размясціць на паліцах работы мастака, то атрымаўся б вялікі аўтарскі музей. Нездарма ў яго роднай першай смаргонскай школе кіраўніцтва, прыступіўшы да рэканструкцыі музейнага пакоя «Наш гонар» у гісторыка-краязнаўчы музей, задумалася пра такі варыянт.

**І вось на бачным месцы музея размясцілася багатая экспазіцыя, прысвечаная ганароваму вучню – Уладзіміру Церабуну.**

Смаргонцы ўдзячныя за прыгажосць горада ў тым ліку і ад творчасці знакамітага мастака: памятны знак «500 год гораду Смаргоні» і «Рэха вайны», памятны знак воінам-інтэрнацыяналістам Смаргоншчыны, скульптурная кампазіцыя «Мядзведжая акадэмія».

**Наш горад упрыгожваюць і каменныя малыя скульптурныя формы – вынік пленэру, у арганізацыі якога ўдзельнічаў мастак.**

### Шматтэмнасць у творчасці Уладзіміра Церабуна

Значнае месца ў творчасці Уладзіміра Церабуна займае тэма вайны. У мастака яна прадстаўленая так, што становіцца блізкай кожнаму. Гэта тычыцца і мемарыяльнага ансамбля «Дальва», і маленькай скульптурнай кампазіцыі «Зноў пра вайну». Адна з характэрных асаблівасцяў аўтарскай тэматыкі – уменне паказаць велічнае і трагічнае аднаго чалавека і бачыць у гэтым трагедыю чалавецтва.

**Галоўная рыса творчасці Церабуна – пошук і валоданне пачуццём асабістых скульптур у спалучэнні з гарадской архітэктурай і асяроддзем.**

Пра гэта сведчаць яго манументальныя работы – памятныя знакі і скульптурныя кампазіцыі, якія ўпрыгожваюць многія гарады Беларусі. Напрыклад, «Заўсёды на варце» (г. Гродна) і «Ветразь» у Гродне, «Дрэва жыцця» ў Вялікай Бераставіцы, «Клёкат буслоў» у Скідзелі, «Саната памяці» ў Лагойску, «Пайшлі ў бессмяротнасць» у Слоніме.

Больш за восем гадоў працаваў Уладзімір Васільевіч у аўтарскім калектыве, па запрашэнні скульптара **Анатоля Арцімовіча**, над праектаваннем і будаўніцтвам мемарыяльнага комплексу па лініі супрацьстаяння ў Першую сусветную вайну ад 1915 да 1917 года ў Смаргоні. А 1 жніўня 2014 года там прайшоў мітынг-рэквіем.

**Скульптар працуе ў жанрах станковай і манументальнай скульптуры, у графіцы, жывапісе, у пластыцы малых форм. Шмат месца ў творчасці займае серыя партрэтаў сучаснікаў. Блізкая мастаку і народная тэма.**

У мастацкіх выставах Уладзімір Церабун удзельнічае ад 1974 года. Аднак яго першая персанальная выстава прайшла ў Гродне ў 1986 годзе, у год 40-годдзя скульптара. Усяго ён зладзіў 20 выстаў. Работы экспанаваліся ў Гродне, Мінску, Маскве, Троіцку, Зеленаградзе, Таліне, Панявежысе, Друскінінкаі, Дубне, Лондане, Міндане, Ростаку, Варшаве, Смаргоні.

### Сям'я. Вытокі

Прырода і бацькі надзялілі юбіляра дабрынёй, працавітасцю, шчырасцю, добрасумленнасцю, адданасцю любімай справе, любоўю да радзімы.

**Уладзімір Васільевіч – добры сем'янін, бацька, музыкант-аматар і паэт. Усё гэта гарманічна зліваецца ў адной асобе.**

Упэўнена крочыць ён па жыцці ад бацькоўскага парога. Закончыўшы смаргонскую СШ №1, ён стаў студэнтам Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Яго скульптар скончыў на адзін год датэрмінова, прытым з адзнакай. Затым працаваў у Гродзенскіх мастацка-вытворчых майстэрнях, быў старшынёй абласнога аддзялення Саюза мастакоў, выкладчыкам Гродзенскага вучылішча мастацтваў, старшынёй Гродзенскага фонду свабоднага мастацтва, аўтарам шматлікіх артыкулаў у абласным друку, а таксама аўтарам і вядучым перадачы «Палітра» на гродзенскім тэлебачанні, удзельнікам гарадскіх, раённых, абласных і рэспубліканскіх персанальных выстаў, двойчы выбіраўся дэпутатам Гродзенскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.

**Да свайго адметнага дня нараджэння Уладзімір Васільевіч выдаў альбом «На хвалях часу». Калі яго пагартаць, яшчэ глыбей зразумееш сутнасць грамадзянскай пазіцыі мастака.**



Фота з архіва «РГ».

Уладзімір Церабун.

Сёння справу майстра працягваюць яго нашчадкі – дачка **Наталля**, дызайнер, унучка **Аліна**, навучэнка другога курса Гжэльскага мастацкага каледжа па спецыяльнасці «Дызайн».

**Расціслаў ШЧАСНЫ,**
**настаўнік гісторыі і грамадазнаўства СШ №1 Смаргоні, кандыдат педагагічных навук, заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь.**



Фота з Вікіпедыі.

Помнік мядзведжай акадэміі ў Смаргоні. Аўтар Уладзімір Церабун.

# «Гарызонт» выйграў тытул Еўрапейскай лігі ў Маладзечне

**3 і 4 красавіка беларускі жаночы баскетбольны клуб «Гарызонт» згуляў у Маладзечне ў Фінале чатырох Еўрапейскай жаночай баскетбольнай лігі. «Гарызонт» стаў першай беларускай камандай, што заваявала чэмпіёнства ў гэтай лізе.**



Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

Баскетбалісткі святкуюць перамогу пасля фінальнай сустрэчы.

Да гэтага лідарамі станавіліся толькі латышская «ТТТ-Рыга» і славацкі «Кошыцэ».

«Рэгіянальная газета» расказвае, як у «Гарызонта» атрымалася перамагчы ў гэтым сезоне.

### Паўфінал супраць украінскага «Праметэя»

«Гарызонт» трапіў у Фінал чатырох без удзелу ў чвэрцьфінале. У Славакіі – лакдаўн, таму славацкія баскетбольныя каманды засталіся без спаборніцтваў. «Гарызонт» павінны быў згуляць супраць «Кошыцэ». У апошнія гады «Кошыцэ» двойчы станавіліся чэмпіёнамі лігі.

Кіраўніцтва Еўрапейскай баскетбольнай лігі прыняло рашэнне праводзіць турнір далей, а «Гарызонт» прасунуўся ў паўфіналы. Дарэчы, упершыню ў гісторыі.

Украінскі «Праметэй» выйшаў у паўфінал Еўрапейскай лігі па спартыўным прынцыпе. У сярэдзіне сакавіка ўкраінскія баскетбалісткі перамаглі літоўскі «Кібіркшціс» з перавагай у кожнай сустрэчы +10 ачкоў і болей.

Матч «Гарызонта» і «Праметэя» прайшоў у Маладзечне. На пачатку гульні «Праметэй» хутка набраў 8 ачкоў дзякуючы стратам каманды пад кіраўніцтвам **Наталлі Трафімавай**. Аднак лідарства «Ніка» не ўтрымала: Трафімава выкарыстала **Настассю Верамеенку** і **Вікторыю Гаспер** пад кошыкам, каб заблакаваць набор хуткіх і лёгкіх ачкоў саперніка.

Верамеенка стала самым эфектыўным гульцом матча: 20 ачкоў, 7 падбораў, 6 перадач і лепшы рэйтынг эфектыўнасці ў камандзе. Іншы цэнтравы гулец – Вікторыя Гаспер – аформіла дабл-дабл (12 ачкоў без промахаў і 10 падбораў). **Юлія Рыцікава** (родам са Смаргоні) дадала ў сваю персанальную скарбонку 15 ачкоў.

Каманды да апошняй чвэрці ішлі ўпоравень, «Гарызонт» крыху быў наперадзе. У чацвёртай чвэрці «Гарызонт» рвануў – атрымалася перамога і выхад у фінал турніру. Гульня скончылася з лікам **84:73**.

### Фінал супраць расійскай «Нікі»

Саўтыўкарская «Ніка» прайшла падобны шлях да ўдзелу ў Фінале чатырох, што і «Гарызонт». Чвэрцьфінал з «П'ешцьянамі» адмянілі праз каронавірусныя абмежаванні, якія ўвялі ў Славакіі, а «Ніка» прайшла далей у паўфінал. Таксама ўпершыню ў сваёй гісторыі. У паўфінале «Ніка» накаўтавала «ТТТ-Рыгу» – **72:64**.

Відавочна, што «Ніка» была слабейшая, чым «Гарызонт». Галоўнаму трэнеру расійскай каманды **Аляксандру Васіну** не заставалася нічога, акрамя выкарыстання асноўнай пяцёркі гульцоў. Напрыклад, чацвёра баскетбалістак са стартавай пяцёркі правялі больш за 34 хвіліны на пляцоўцы. Расіянкі перамаглі ў бітве за падборы, выкарыстаўшы ідэальна моманты з ачкамі другога шанца.

«Гарызонт» прымяніў іншую тактыку: баскетбалісткі Трафімавай забівалі пераважна з трохачковай лініі, таму нязначныя поспехі «Нікі» нівеляваліся хутка і ўдала.

Настасся Верамеенка ў фінале таксама стала галоўнай зоркай турніру: 20 ачкоў, 6 падбораў, 3 перадачы, 3 блокшоты. Такім чынам, беларуская баскетбалістка стала лепшым гульцом турніру. Рыцікава забіла 15 ачкоў з трохачковай лініі, стаўшы лепшым гульцом матча за «Гарызонт». **Яніна Інкіна** завяршыла матч з дабл-даблам.

«Гарызонт» перамог у фінальным матчы Еўрапейскай баскетбольнай жаночай лігі з лікам **70:60**.

Матч за бронзавыя медалі не адбыўся. Баскетбалісткі «Праметэя» атрымалі станоўчыя вынікі тэстаў на каронавірус.


Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## «Смаргонь» зарабіла першае ачко ў вышэйшай лізе

4 красавіка смаргонская каманда зарабіла першае ачко ў вышэйшай лізе. Да гэтага каманда пад кіраўніцтвам **Вячаслава Герашчанкі** саступіла ў двух матчах запар.

«Смаргонь» сустрэлася з мазырскай «Славіяй». У першым тайме **Іслам Тлупаў** забіў гол з паса **Яўгена Барсукова**. Смаргонцам заставалася толькі даганяць, аднак напрыканцы матча змен на табло не намячалася. На 82-й хвіліне ў свае вароты забівае **Міхаіл Бараноўскі** – гулец «Славіі». Такім чынам, сустрэча скончылася з лікам **1:1**.

Жоўтыя карткі атрымалі **Аляксандр Раеўскі** («Славія»), **Сяргей Бандарэнка**, **Данііл Кавалёў**, **Уладзіслаў Яцкевіч** (усе – «Смаргонь»).

«Смаргонь» знаходзіцца на 14-м месцы турнірнай табліцы.

**Настасся УТКІНА.**

## У першай лізе згуляюць 12 камандаў

2 красавіка ў Доме футбола адбылася нарада з удзелам прадстаўнікоў клубаў першай лігі. У другім дывізіёне Беларусі згуляюць 12 камандаў: «Арсенал» (Дзяржынск), «Баранавічы», «Белшына» (Бабруйск), «Хваля» (Пінск), «Дняпро» (Магілёў), НФК «Крумкачы» (Мінск), «Ліда», «Лакаматыў» (Гомель), «Нафтан» (Наваполацк), «Орша», «Слонім-2017», «Шахцёр» (Петрыкаў).

Матчы першай лігі пачнуцца 17 красавіка.

**Паводле Football.by.**

## ФК «Маладзечна» саступіў у спарынгу

3 красавіка ФК «Маладзечна» згуляў з «Кронанам» у таварыскім матчы. Маладзечанцы саступілі з лікам – **1:3**. «Маладзечна» будзе выступаць у другой лізе чэмпіянату Беларусі, старт турніру пакуль застаецца невядомым.

**Настасся УТКІНА.**

## У міжсезонні з «Маладзечна» сышлі сем гульцоў

У міжсезонні ФК «Маладзечна» пакінулі сем футбалістаў. **Аляксандр Красноў** перайшоў у «Крумкачы», **Дзмітры Даўбейка** стаў гульцом «Кронана», **Кардона Дэмбеле** праходзіць прагляд у «Астраўцы». **Арцём Базылюк**, **Максім Сурко**, **Арцём Раманчык**, **Мікіта Цыкала** – свабодныя агенты.

**Настасся УТКІНА.**

## Мархель падаў у адстаўку з паста галоўнага трэнера зборнай Беларусі

Галоўны трэнер зборнай Беларусі **Міхаіл Мархель** падаў у адстаўку. Аб гэтым паведаміў журналіст **Уладзіслаў Татур**.

Нагадаем, што 30 сакавіка нацыянальная зборная пацярпела самае буйное паражэнне ў сваёй гісторыі, прайграўшы Бельгіі – **0:8**.

Да гэтага самым буйным паражэннем беларусаў была гульня супраць Аўстрыі (0:5) у рамках кваліфікацыі Еўра-2004.

**Паводле «Трыбуны».**

## «Астравец» перамог моладзевую каманду БАТЭ

«Астравец» працягвае падрыхтоўку да сезона ў другой лізе. Каманда рэгулярна праводзіць таварыскія сустрэчы. 3 красавіка «Астравец» перамог БАТЭ-U18 – **5:3**.

Галы за «Астравец» забівалі **Кашэўскі**, **Купнеўскі**, **Клачкевіч**, **Хадневіч** зрабіў дубль.

У матчы не згуляў **Мікіта Дудо** ў сувязі з траўмай.

**Настасся УТКІНА.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 4 | | | | | | | | | | 16 | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | 3 | | | | | | | | | 13 | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | 15 | | | | | |
| 1 | | | | | | | | | | | | 11 | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | 12 | | | | | | | | |
| 2 | | | | | | | 5 | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | 10 | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | 9 | | | | | | 18 | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 6 | | | | | | | 17 | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | 20 | | | |
| | | 7 | | 14 | | | | | | | 19 | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 8 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | 21 | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Прылада для вымярэння часу.
2. Адчуваць агіду да нечага.
4. Чалавек з незвычайнымі схільнасцямі, звычкамі, поглядамі.
6. Герой беларускіх казак, легенд, воін незвычайнай сілы, мужнасці і розуму.
7. Прапанаванае для тлумачэння з'яў навуковае меркаванне, праўдзівасць якога яшчэ не даказана доследным шляхам.
8. Які мае патрэбныя ўласцівасці, якасці, заслугоўвае адабрэння.
9. Ніжняя частка галавы з губамі і ноздрамі ў жывёл.
10. Не быць у наяўнасці, адсутнічаць, бракаваць.
12. Невялікая звязка чаго-небудзь.
15. Населены пункт, з якога ў 1980-х гадах мелі намер перанесці прах Максіма Багдановіча ў Мінск, але не атрымалі афіцыйнага адказу.
17. Дасягнуць якога-небудзь узросту; пражыць да пэўнага тэрміну, падзеі.
18. Атмасфера, якая бачная з зямлі – прастора ў форме купала, скляпення.
19. Апарат, які самастойна, без непасрэднага ўдзелу чалавека выконвае работу.
21. Прадпрыемства, якое займаецца ўлікам і выкарыстаннем ляснога фонду, развядзеннем лесу.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Непразрыстая фарба, расцёртая на вадзе з клеем і прымессю бялілаў.
3. Перарывістая лінія з кропак або кароткіх рысак.
4. Мадэльер Карл Лагерфельд казаў, што той, хто на яго вечарынках размаўляе на гэтыя дзве тэмы, запрашэнняў больш не атрымае. Адна з гэтых тэм – надвор'е. Назавіце другую.
5. Такая колькасць чаго-небудзь, якую можна панесці, абхапіўшы дзвюма рукамі.
7. Прадукт далучэння вады да неарганічных і арганічных рэчываў.
8. Частка сутак, час ад усходу да заходу сонца, ад раніцы да вечара.
10. Частка апарата, якая надзяваецца на нешта.
11. Гэту рэч у засушаным выглядзе ад павешанага чалавека марылі атрымаць злачынцы. Меркавалася, што такі амулет адчыняў замкнёныя дзверы, мог зрабіць рабаўніка нябачным, паралізаваць ахвяру. Так як у амулета шмат функцый, у адной кнізе яго параўноўваюць са шматфункцыянальным швейцарскім нажом.
13. Рагавы стрыжань з пушыстымі адросткамі па баках, які вырастае на скуры птушак.
14. Частка вяроўкі, шнура, ніткі, складзеная кольцам і завязаная так, што канцы яе можна зацягнуць.
16. Адбітак на фатаграфічнай пласцінцы або плёнцы, на якім размеркаванне святла і ценю адваротнае сапраўднаму, а таксама фатаграфічная пласцінка або плёнка з такім адбіткам.
18. Які не дзеліцца на два.
19. Установа, якая зберагае, сістэматызуе і апісвае пісьмовыя і графічныя помнікі мінулага з мэтай навуковага і практычнага іх выкарыстання.
20. У англійскай мове ёсць прымаўка «Занадта шмат повараў сапсуюць поліўку». Прафесар Толкін лічыў перавагай той факт, што ў штучных мовах адзін «повар», таму яны больш дасканалыя. У той час як натуральныя стварае народ. Каго назваў Толкін у якасці ўдалага «повара»?

## Адказы на крыжаванку з №14

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Латок. 4. Удзел. 7. Вітраж. 8. Аўсянка. 9. Янычар. 10. Галушкі. 13. Газета. 16. Гвалт. 18. Уводзіны. 20. Апіска. 21. Люлька. 22. Афрыката. 23. Жонка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Жалеза. 2. Жарт. 5. Лёгкія. 6. Глава. 11. Мінск. 12. Узрост. 14. Жэле. 15. Жанр. 17. Гало. 18. Уваход. 19. Шпілька. 21. Лыжнік. 22. Ахвота. 24. Русак. 25. Акцыя.

## ● ГАРАСКОП НА 9-15 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Чакаюцца цікавыя знаёмствы і сустрэчы, займальныя паездкі па службовых і асабістых справах. Падзеі будуць развівацца імкліва і непрадказальна. Каб не спудзіць поспех, нічога не плануйце, вырашайце задачы па меры іх паступлення.



**ЦЯЛЕЦ.** Прыйшоў час разабрацца з фінансавымі справамі і перагледзець сямейны бюджэт. Знойдуцца выдатныя магчымасці для росту даходаў. Зноў могуць з'явіцца даўжнікі, на якіх вы даўно махнулі рукой. Ёсць таксама верагоднасць, што хтосьці дарэ вам стары доўг.



**БЛІЗНЯТЫ.** Рыхтуецца мноства сюрпрызаў і падарункаў, якія вас пацешаць. Давядзецца быць у цэнтры ўвагі. Таму знайдзіце час, каб прывесці сябе ў належны выгляд. Старанна прадумвайце гардэроб, стыль. Магчымая лёсавызначальная сустрэча.



**РАК.** Узрасце ваша прывабнасць і ўзмоцніцца асабісты магнетызм. Грэх не скарыстацца гэтым у сваіх інтарэсах. Лёгка вырашацца любыя пытанні, і хутка наладзяцца складаныя справы. Так што ўключайце абаянне, і ніхто ні ў чым не асмеліцца вам адмовіць.



**ЛЕЎ.** Высокая верагоднасць, што ўсе працоўныя справы затармозяцца, а асабістыя – забуксуюць. Не панікуйце. Гэта планавая перадышка. Вам трэба пабыць сам-насам з сабой. Добра ўзяць адпачынак, заняцца знешнасцю і здароўем.



**ДЗЕВА.** Клапатлівы і мітуслівы тыдзень. Магчыма, прыйдзецца жыць у стане цэйтноту літаральна на ўсіх жыццёвых франтах. Часу будзе катастрафічна не хапаць. Таму пажадана не брацца за ўсё адразу.



**ШАЛІ.** Калі не браць у разлік дробныя непаразуменні бытавога плана, то практычна ўсю другую палову тыдня будзеце адчуваць сябе абсалютна шчаслівымі.



**СКАРПІЁН.** Звярніце ўвагу на здароўе. Нельга перапрацоўваць. Нічога страшнага, калі тыдзень вы папрацуеце не ў поўную моц. Пажадана адкласці вырашэнне фінансавых пытанняў, асабліва тых, што звязаны з іншымі людзьмі.



**СТРАЛЕЦ.** Можна трошкі расслабіцца. Ролю першай скрыпкі ва ўсіх вашых справах возьмуць на сябе любімыя, родныя і блізкія людзі. Не перашкаджайце ім парадамі і падказкамі.



**КАЗЯРОГ.** На жаль, амаль ва ўсіх сферах жыцця абставіны будуць складвацца не на вашу карысць. Дамагацца жаданага няма сэнсу да той пары, пакуль самі выразна не вызначыцеся, што ж вам трэба на самой справе. Ёсць сэнс перагледзець некаторыя перакананні, якія тычацца адносін з людзьмі.



**ВАДАЛЕЙ.** Выдатны настрой і небывалы душэўны ўздым будуць з вамі ўвесь час. Магчыма, менавіта цяпер удала вырашыцца ваш лёс па частцы асабістага жыцця і кахання. Найлепшым чынам будуць ісці справы і ў прафесіі.



**РЫБЫ.** Няпросты ў эмацыйна-псіхалагічным сэнсе час. Спатрэбяцца вялікія намаганні, каб падтрымліваць сябе ў працоўным тонусе. Ні ў якім разе не здавайцеся і не падайце духам, нават калі будзе падавацца, што ўвесь свет супраць вас.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | | 8 | | 7 | | 2 | |
| 9 | | 7 | 4 | | | | | 5 |
| | 1 | | 9 | | 6 | | 7 | |
| | | 8 | 3 | | 9 | | | 2 |
| | | | 5 | | 4 | 9 | | 1 |
| | 4 | | | 1 | 8 | | | |
| | | | 6 | | | 2 | | |
| | | | | | | 7 | | 3 |
| | 8 | | | | 5 | | 1 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by



● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

У вёсцы ў беларуса гарыць хлеў. Прыбеглі суседзі, крычаць гаспадару, які спакойнаназірае за пажарам:

– Янка, чаго ж ты стаіш – у цябе хлеў гарыць!

А ён адказвае:

– Ну хоць не струхнее.

***

Невераготны пад'ём адчула беларуская эканоміка, калі амерыканскі турыст згубіў у цэнтры Мінска сто долараў.

***

Пасля смерці беларусы трапляюць альбо ў рай, альбо назад у Беларусь.

***

У Мінску здзейснілі напад на інкасатарскі аўтамабіль. Зламыснікі адкруцілі колы, злілі бензін і з'ехалі ў невядомым кірунку. Груз беларускіх рублёў рабаўнікоў не зацікавіў.

***

1930-е гады, тройка прысудзіла ўкраінца і беларуса да расстрэлу. Ну і сказалі старому НКВДэшніку адвесці іх у лес. Вядзе іх дзед на расстрэл. Украінец:

– Братка-беларус, слухай. Дзед стары зусім. Давай разам на яго нападзём, павалім, ружжо адбяром і ў лес.

– Не, не трэба. А то яшчэ горш будзе.

Ідуць далей. Праз пяць хвілін украінец не вытрымаў:

– Братка-беларус, ну глядзі. Ён жа зусім стары, кульгае і ружжо ледзь трымае. Вырашай. Нападзём зараз, па галаве яму, ружжо забяром, а пасля ў лес.

– Не, горш будзе.

Ідуць далей, і тут беларус шэптам кажа ўкраінцу:

– Слухай, браце, бачу – ты маеш рацыю. Дзед сапраўды стары.

– Ну!

– І кульгае.

– Ну!

– Дык можа мы яму ружжо дапаможам данесці?



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці з'язджалі вашы знаёмыя з Беларусі за апошні час?



**Аляксандр:**

– Так, двое. Вы самі ведаеце, па якіх прычынах яны маглі з'ехаць.



**Алена:**

– Не, хутчэй за ўсё, на заробкі. Напэўна, такіх трое.



**Галіна:**

– Не, пенсіянеры ж. А тыя, хто з'ехаў раней, там і засталіся.



**Аляксандр:**

– Так, усе з'ехалі. Нават хросная дачка з'ехала з дзецьмі. Можа, і лепей там: маюць працу, маюць грошы. І там танней усё.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

● Працяг сямейнай гісторыі Лампрэхтаў. Як сям'я нямецкага інжынера трапіла ў Вязынь па запрашэнні мясцовага пана Гецэвіча і чым яны займаліся ў маёнтку.

## 10 красавіка, субота

**Вецер:** паўднёвы, 7-8 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -5,8°С у 1990 годзе
Максімальная тэмпература +21°С у 2018 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 27,4 мм у 2008 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Грэйцеся вясновым сонейкам і навінамі «Рэгіянальнай газеты»!

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень даведвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы.**

**Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

**праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. Або адсканульце QR-код.



У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

**на пошце**

**праз паштальёна**

**праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў:

- на месяц – 5.19 / 3.86 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання),
- на квартал – 15.57/11.58.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16.99 / 15.39,
- на квартал – 50.97 / 46.17.

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная) 632122 (ведамасная падпіска).*



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№15 (1354) 9.04.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 589. Падпісана ў друк у 9.00 8.04.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.